НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 39 (732) 19 кастрычніка 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗ

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у



## Міхалок: Хлопец пад следствам

Пракурор Радзівонаў: «Выказванні саліста «Ляпіса Трубяцкога» знаходзяцца па-за рамкамі не толькі нормаў этыкі і маралі, але і права». Старонка 3.

# Ёсць у дэвальвацыі пачатак



PHOTO.BYMEDIA.NET

Увядзенне «адзінага курса» выкліча новы **рост цэн**.

З 20 кастрычніка валютныя таргі будуць праходзіць у рамках адной сесіі. Пра гэта заявіў віцэ-прэм'ер Беларусі Сяргей Румас, які ў чарговы раз стаў веснікам лібералізацыі. «На адзінай гандлёвай сесіі гэтак жа, як цяпер на дадатковай, будзе гнуткае курсаўтварэнне — у залежнасці ад попыту і

**Румас абяцае самы рынкавы курс.** »

прапановы. Урад і Нацбанк дазваляюць курсу намацаць раўнаважкае значэнне, пры якім попыт і прапанова будуць роўныя. Каб экспарцёрам было цікава прадаваць валюту, а імпарцёрам купляць. Гэта значыць, ні ў якой ступені дзяржава не будзе адміністрацыйна ўмешвацца ў курсаўтварэнне», — паабяцаў Румас.

**Працяг на старонцы 5.**

Ад 2012 года газета ў кіёсках падаражэе да 4000 рублёў. **Хто падпісваецца — выйграе.**

**Дык падпісвайся!**

# Нахілілі?

Лукашэнка першым адказаў Пуціну на артыкул пра **Еўразійскі саюз**.



Аляксандр Лукашэнка абяцае Маскве вернасць. Але ў той жа час называе суверэнітэт неадменным.

У адказ на артыкул Уладзіміра Пуціна аб інтэграцыі на постсавецкай прасторы у той жа газеце «Ізвестія» выступіў Аляксандр Лукашэнка. Сваю публікацыю ён назваў «Аб лёсах нашай інтэграцыі». Тэкст поўны кампліментаў. Такі тон прымусіў многіх назіральнікаў задацца пытаннем: ці за трэці тэрмін нахіліць Пуцін мінскую адміністрацыю яшчэ мацней, чым тое было ў часе першага яго прэзідэнцтва, калі ён аддзяліў мухі ад катлет?

«Якраз прыйшоў час гаварыць аб галоўным. Гэтая публікацыя — сапраўдная падзея», — піша кіраўнік Беларусі.

Лукашэнка хваліць Пуціна за тое, што інтэграцыя краін былога СССР вызначаная ў якасці прыярытэту замежнай палітыкі: «За словамі артыкула — стратэгія. Правільная стратэгія. І толькі недалёкія людзі могуць вінаваціць аўтара ў перадвыбарнай кан'юнктурнасці».

«У Беларусі рэакцыя на ізвесцінскую публікацыю неадназначная, ёсць частка грамадства, якая шчыра заклапочаная, паколькі на коне лёс дзяржавы», — прызнае Лукашэнка.

Згодна з дадзенымі сацыёлагаў, большая частка беларускага грамадства хацела б інтэграцыі ў высокаразвітыя Еўрасаюз, складзены з нацыянальных дэмакратычных дзяржаваў, а не ў Расію, якая гатовая лёгка растварыць у сабе малую Беларусь, як было ў царскія і савецкія часы.

«Ужо на працягу паўтара дзясятка гадоў саюзная дзяржава — маштабная лабараторыя глыбокай інтэграцыі, — нагадвае свае заслугі Лукашэнка. — Па некаторых напрамках мы нават наперадзе Еўрапейскага саюза».

«Праўду кажучы, стварэнне АЭП стала для нас нялёгкім кампрамісам. А калі яшчэ шчырэй: за Адзіную эканамічную прастору Беларусь заплаціла дорага, — прызнае ён нявыгады інтэграцыі. — Толькі роўнасць партнёраў, у тым ліку роўнасць умоў гаспадарання з роўным доступам да адзінай энергетычнай і транспартнай сістэмы дасць магчымасць стварыць надзейную аснову для нашага саюза».

Лукашэнка дапускае магчымасць «кансэнсуснага фармавання нейкіх наднацыянальных органаў, у тым ліку, магчыма, палітычных» і нават увядзення адзінай валюты. «Час пакажа», — неканкрэтна піша ён. Але, дадае адразу, «суверэнітэт нашых дзяржаў» «не адмяняе нават самая цесная інтэграцыя».

**Мікола Бугай**

## З пошты Рэдакцыі

# Запавет настаўніка

Гэты геніяльны ананімны верш перадалі ў Рэдакцыю настаўнікі адной са школ. «Некалькі дзён у нашай настаўніцкай ляжаў аркуш з вершам. Невядома, хто яго паклаў, — пішуць яны. — Перасылаем у «Нашу Ніву» — хай пачытаюць іншыя настаўнікі».

Як памру, то пахавайце
Мяне каля школы.
На педсавеце не карайце
Больш мяне ніколі.

На вянок мне не марнуйце
Ні грошай, ні часу,
Бо я знаю, што настаўнік
Не мае запасу.

На магілцы пасадзіце
Якіх-небудзь кветак,
У дамавіну пакладзіце
План самаасветы.

Каб усё было са мною:
Канспекты, праграмы.
Не забудзьце ў рукі даць мне
Рабочыя планы.

Перад тым, як забіваці
Дамавіны крышку,
Пакладзіце пад падушку
Цікавую кніжку.

Бо калі абрыдне ўрэшце
Проста так ляжаці,
Можа там хоць, на свабодзе,
Змагу прачытаці.

Плача завуч над труною:
«Ой, ты, мой саколе!
Кім жа я твае ўрокі
Замяню ў школе?»

А дырэктар нахіліўся,
Шэпча: «От, марока!
Што памёр ты — чорт з табою,
Калі б не ўрокі».

А яшчэ прашу, сябры, вас,
Як будзе зарплата,
Вы кульніце на ўсе грошы —
Памяніце брата.

А прафкаму перадайце:
На той свет сабраўся,
А пуцёўкі ў санаторый
І не дачакаўся.

І начальству перадайце
Вы шчырае «дзякуй!».
Хай цяпер мяне цалуе
У самую…

**ПМ**

# Прызнанне «Рыбінага горада»



**Раман Наталкі Бабінай знойдзеце ў кнігарнях у новым выданні серыі «Кнігарня «Наша Ніва».**

Раман з «Кнігарні «Наша Ніва» выбраны сярод 52 кніг.

«Рыбін горад» Наталкі Бабінай трапіў у шорт-ліст самай прэстыжнай літаратурнай прэміі Цэнтральнай Еўропы. Разам з шасцю іншымі творамі ён прэтэндуе на прэмію «Ангелус», якую заснаваў горад Вроцлаў. Яго выбралі сярод 52 твораў.

Беларусы яшчэ ніколі не атрымлівалі «Ангелуса». Сярод мінулых яго лаўрэатаў былі Ёсаф Шкворэцкі (Чэхія), Пэтэр Эстэргазі (Венгрыя), Юрый Андруховіч (Украіна). У грашовым выражэнні прэмія складае каля 35 тысяч еўра.

Польскі пераклад «Рыбінага горада» выйшаў у выдавецтве Rebis. Яго прадалі каля 7000 экзэмпляраў.

Разам з «Рыбіным горадам» на прэмію прэтэндуюць «У вайны не жаночае аблічча» іншай беларускай аўтаркі — Святланы Алексіевіч, а таксама ўкраінка Марыя Мацюс, немка Джэні Эрпенбек, албанец Ісмаіл Кадарэ, славенец Драга Янчар.

**МБ**

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 10000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 5 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпіска праз «Белпошту»** на 2-е паўгоддзе:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 9210 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 10626 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.

## Сцісла

**Лукашэнка хоча аднаасобна распараджацца зямлёй**

Аляксандр Лукашэнка прапанаваў вярнуцца да выдзялення ўчасткаў з сельгасугоддзяў толькі са згоды кіраўніка дзяржавы. Ад 2007 года права выключаць участкі з сельгасзямель і перадаваць іх ва ўласнасць пад будоўлі мелі таксама аблвыканкамы і Мінгарвыканкам.

**Прышчаміла ўнітазам ва ўласнай прыбіральні**

«Злёгку нецвярозы» мінчук пахіснуўся і зваліўся паміж сцяной і ўнітазам. Самастойна выбрацца ўжо не змог — унітаз моцна прыціснуў яго ў вобласці жывата. Пажарнікам давялося адбіваць край унітаза ломам.

**ЕС Украіну не пакіне**

Еўрасаюз адмяніў візіт прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча ў Брусэль. Гэта спосаб выказаць абурэнне прысудам экс-прэм'еру Украіны Юліі Цімашэнцы. У той жа час стала вядома, што ЕС падпіша з Украінай дамову аб асацыяцыі ў снежні, як і меркавалася.

Цімашэнку пакаралі за падпісанне нявыгаднага для Кіева кантракта з «Газпрамам».

**Міліцыянт-гвалтаўнік**

На восем гадоў асуджаны былы міліцыянер, які згвалтаваў непаўналетнюю. Гэта 40-гадовы ўчастковы інспектар з Іванаўскага раёна. Дзяўчына была п'яная, міліцыянты падабралі яе на прыпынку.

**Касірка-махлярка**

Касірка мінскага банка спрабавала збыць фальшывую купюру Цэнтрабанка Расіі. Яна кажа, што атрымала банкноту ад кліента. Яна праверыла яе сапраўднасць толькі па адным крытэры, а на іншыя ступені абароны не звярнула ўвагі. Калі ж яна зразумела памылку, то вырашыла пазбавіцца ад фальшыўкі. Цяпер ёй пагражае да сямі гадоў турмы.

**СГ; БелаПАН, БелТА**

**Самае чытанае на nn.by за 12—18 кастрычніка**

1. Пратэсты без дазволу забараняюцца. Змежныя гранты таксама. А кадэбістам можна будзе ўсё
2. Рэкорднае падзенне рубля на біржы
3. Румас: «20 кастрычніка з'явіцца адзіны валютны курс»
4. Макарэвіч напісаў песню «В Холуёво приезжает Путин»
5. Лідара «Ляпісаў» выклікаюць у пракуратуру
6. Біржавы курс даляра пераваліў за 9000 рублёў
7. «Перадайце Лукашэнку маю кнігу, няхай пачытае»
8. Сорак студэнтак пабіліся з-за аднаго хлопца
9. Жанчына, якая насмерць збіла дзяўчынку ў Бранску, спрабавала забіць сябе + відэа аварыі
10. Жанчыны свайго часу — фоты

# Кадэбістам можна будзе ўсё

Шмат гуку нарабілі **праект закона** аб «Аб органах дзяржаўнай бяспекі» і змены ў Крымінальным кодэксе.

Змены былі прапанаваны Саўмінам, прыняты палатай і ўхвалены саветам рэспублікі. Прычым, усё гэта адбывалася незаўважна для грамадскасці. Новыя папраўкі сталі даступныя толькі пасля таго, як тэкст закона быў змешчаны на сайце pravo.by.

Закон пра КДБ пакуль не прыняты, але палата прадстаўнікоў таксама ўзяла яго на разгляд.

Па сваіх наступствах новы пакет перавышае «антырэвалюцыйны» пакет 2005 года. На жыццё ўсяго грамадства паўплывае наданне надзвычайных паўнамоцтваў Камітэту дзяржаўнай бяспекі. Цяпер супрацоўнікі КДБ будуць канчаткова выведзеныя з-пад кантролю іншых органаў і будуць надзеленыя ў звычайны час паўнамоцтвамі, характэрнымі для надзвычайнага становішча.

**Новыя нормы яшчэ больш аддаляюць краіну ад еўрапейскіх стандартаў прававой дзяржавы. »**

Напрыклад, яны атрымаюць права ўрывацца ў хаты і офісы ў любы час дня і ночы. «Уваходзіць бесперашкодна пры неабходнасці з пашкоджаннем прыладаў (якія замыкаюцца) і іншых прадметаў, у любы час сутак у жылыя памяшканні ці іншыя законныя ўладанні фізічных асоб, у памяшканні і (або) іншыя аб'екты дзяржаўных органаў і іншых арганізацый».

Для недзяржаўных арганізацый, безумоўна, вялікую небяспеку тоіць тое, што ад цяпер атрыманне замежнага фінансавання будзе разглядацца як крымінальнае злачынства.

Для палітычнага жыцця ў цэлым самае вызначальнае — далейшая крыміналізацыя масавых акцый пратэсту.

Канстытуцыйнае права на свабоду сходу траціць усялякі сэнс. Ва ўмовах, калі атрымаць дазвол на правядзенне акцый пратэсту ў краіне даўно немагчыма, пратэсты робяцца фактычна забароненымі як такія. Калі раней Беларусь была падобная да Савецкай Польшчы, цяпер яна больш падобная да Румыніі часоў Чаўшэску.

«Новыя нормы фактычна надаюць законны характар тым практыкам, якія былі ўжытыя ў дачыненні да ўдзельнікаў Плошчы і Алеся Бяляцкага», — мяркуе юрыст Юрый Чавусаў.

Сапраўды, улады проста ўзаконьваюць тыя нормы, якія і без таго ўжывалі. Але факт спешнага, таямнічага прыняцця гэтых змен паказвае, што ўлады баяцца сацыяльнага выбуху больш, чым калісьці, і спадзяюцца толькі на рэпрэсіі. Генерал Грыб, былы старшыня Вярхоўнага Савета, бачыць у папраўках уплыў «панічнага страху ўлад перад будучыняй».

Новыя нормы яшчэ больш аддаляюць краіну ад еўрапейскіх стандартаў прававой дзяржавы і будуць негатыўна ўспрынятыя патэнцыйнымі замежнымі інвестарамі: новаўвядзенні робяць кожнага грамадзяніна, у тым ліку бізнэсоўца, менш абароненым.

«З вялікім непакоем мы прымаем да ведама зацверджаны ў беларускім парламенце праект паправак да закона аб грамадскіх арганізацыях, нацэлены на блакаванне міжнароднай падтрымкі беларускай грамадзянскай супольнасці і палітычнай апазіцыі», — заявіла Мая Качыянчыч, прэс-сакратарка найвышэйшай прадстаўніцы ЕС па замежных справах і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан.



**Невядомыя ўрываліся ў офісы незалежных арганізацый і да прыняцця закона аб КДБ. На фота: дзверы мінскага офіса «Белсата» разрэзаныя ў ноч на 26 снежня.**

Ці праз рэакцыі Захада, ці грамадства, але дэпутаты вырашылі даць задні ход, прынамсі, Закону пра КДБ. «На выхадзе ў першапачатковым выглядзе можа застацца толькі 50–60% дакумента», — заяўляюць у парламенце.

Нешта падобнае ўжо здаралася з законам аб інтэрнэце, калі ён яшчэ да прыняцця трапіў у СМІ. Шырокае абмеркаванне і незадаволенасць зрабілі сваю справу, і найбольш адыёзныя моманты праекта былі выкрэсленыя.

**Мікола Бугай, Зміцер Панкавец**

## Павел Сапелка: Гэта вяртанне ў 1971 год

Законапраект аб органах дзяржбяспекі каментуе былы адвакат Павел Сапелка.

**«Наша Ніва»: Што новага прымаецца ў гэтым законе?**

**Павел Сапелка:** Навіна ў тым, што для супрацоўнікаў КДБ больш пашыраныя і вызначаныя выпадкі для прымянення зброі, спецтэхнікі, фізічнай сілы. Насцярожвае, што яны могуць быць выкарыстаныя ў іншых выпадках, вызначаных кіраўніком дзяржавы. То бок гэта пакідае варыятыўнасць для дзеяння. Цікава, што ў законах аб дзяржаўнай ахове ці памежнай службе ёсць закрыты спіс пунктаў, паводле якіх можна выкарыстоўваць зброю. Тут жа ён можа мяняцца і карэктавацца.

**«НН»: Гэты праект сапраўды падобны да таго, што існуе адносна органаў унутраных справаў?**

**ПС:** Так, ёсць шмат падабенства. Напрыклад, міліцыя магла і да гэтага трапляць у кватэры з ордарам аб ператрусе ўначы. Цяпер гэтую ж магчымасць атрымалі і спецслужбы. Таксама паводле законапраекта змяншаецца ступень пракурорскага нагляду над супрацоўнікамі спецслужбаў. Органы дзяржбяспекі фактычна не будуць мець ніякай справаздачнасці перад пракурорскімі работнікамі. Хаця гэта назіралася і раней. Напрыклад, старшыня КДБ можа прымаць рашэнне аб арышце без санкцый пракурора.

**«НН»: Ад каментатараў можна было пачуць, што вяртаецца 37-ы год. Сапраўды, усё так страшна?**

**ПС:** Магчыма, гэты законапраект не такі ўжо і кепскі. Але страшна ўсё ў комплексе, яго правапрымяняльная практыка. Гэта хутчэй вяртанне да 1971 года.

**Гутарыў ЗП**

## Аляксандр Баганёў: Галоўная мэта — запалохаць

**Былы кіраўнік Фрунзенскага райаддзела КДБ** Мінска Аляксандр Баганёў пра папраўкі ў законе аб органах дзяржбяспекі.

**«Наша Ніва»: Дзеля чаго прымаюць гэты закон?**

**Аляксандр Баганёў:** Па-першае, у спецслужбах таксама ёсць разброд і шатанні. Улады такім чынам паказваюць, што падтрымліваюць спецслужбы, клапоцяцца. Замацоўваюць за КДБ прававую базу, бо нават у міліцыі правоў было больш. Па-другое, і гэта галоўнае — запалохаць грамадства.

**«НН»: Ці варта баяцца гэтых новаўвядзенняў?**

**АБ:** Нічога яны не вырашаюць. Рэвалюцыйнасці ў іх дакладна няма. Усё, што рабілася раней, будзе рабіцца і цяпер. Думаю, што жаданага выніку гэтыя змены таксама не дадуць. Толькі наробяць шкоды іміджу краіны. Самім супрацоўнікам спецслужбаў тым самым робяць «мядзведжую паслугу».

**Гутарыў ЗП**




**Сяргей Міхалок выбіў наназе Пагоню, а пад сэрцам фразу «Не быць скотам».**

# Міхалок: Хлопец пад следствам

Вакаліст гурта «Ляпіс Трубяцкой» Сяргей Міхалок атрымаў **выклік у пракуратуру**.

Гэта адбылося ў той момант, калі музыка знаходзіўся з гастролямі ў Расіі. Позву прынеслі да родных Сяргея. Прычым не ўказваючы, у якасці каго ён выклікаецца.

Міхалок размаўляць на гэтую тэму не хоча. «Буду на Радзіме — разбярэмся», — кажа ён.

Начальнік упраўлення па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў Генпракуратуры Павел Радзівонаў кажа, што крымінальнай справы пакуль няма. Пракуратура ж займаецца праверкай выказванняў творцы адносна асобы Аляксандра Лукашэнкі.

У інтэрв'ю, якое стала прычынай разбіральніцтва, пасля канцэрта ў Піцеры Сяргей Міхалок сказаў: «Ніякі ён не прэзідэнт. Гэта чалавек, які ненавідзіць свой народ. Любы чалавек кіраваў бы краінай лепш за Лукашэнку».

«Я просты чалавек, не палітык, але цяпер ведаю, што трэба біцца, у мяне няма іншага выйсця», — сказаў музыка.

Цяпер у гурта «Ляпіс Трубяцкой» напружаны гастрольны графік. Часу прыехаць у Беларусь у Міхалка пакуль няма. Вядома толькі, што творца наняў адваката, каб ён дапамог разабрацца ў гэтай справе.

У апошнія гады ў гурта «Ляпіс Трубяцкой» з'явілася нямала беларускамоўных песень, самі музыкі выступаюць на канцэртах, трымаючы бел-чырвона-белыя сцягі і гукаючы «Жыве Беларусь». На радзіме гурт трапіў у чорныя спісы, яго песні не пачуеш на ФМ-радыёстанцыях. Міхалок неаднаразова рэзка крытыкаваў дзейсную ўладу.

«Выказванні саліста «Ляпіса Трубяцкога «знаходзяцца па-за рамкамі не толькі нормаў этыкі і маралі, але і права, — заявіў пракурор Радзівонаў. — У любым цывілізаваным грамадстве абраная музыкам форма выказвання з'яўляецца недапушчальнай і ставіць яе аўтара ў разрад банальных хуліганаў, — мяркуе ён. — Міхалок лічыць сябе чалавекам культурным і сучасным. Значыць, яго творчая дзейнасць павінна будавацца на прынцыпах павагі асобы», — сказаў Радзівонаў.

Варта адзначыць, што пракуратура ні разу не адрэагавала на выразы «пятая калона», «ворагі народа» ці «казлы», калі яны гучаць з іншых вуснаў.

Цяпер раптоўна актуальнай у інтэрнэце стала песня Міхалка 1998 года «Хлопец пад следствам». «Чаго? Ды нічаго. Пасадзіць хочуць яго», — пяе Міхалок.

**ЗП**

# Васілевіча знялі, бо ён не завёў крымінальнай справы за «Стоп-бензін»?

**У інтэрнэце апублікаваны ліст шэфа КДБ Генпракурору ад 14 чэрвеня.**

Былая вядучая тэлеканала «Белсат» Вольга Швед апублікавала ў сваім блогу копію ліста, накіраванага Камітэтам дзяржаўнай бяспекі Генпракурору 14 чэрвеня. Зварот падпісаны шэфам КДБ Вадзімам Зайцавым і мае грыф «Для службовага карыстання». У ім КДБ «прапануе» пракуратуры распачаць крымінальную справу па факце акцыі «Стоп-бензін» 7 чэрвеня.

Таксама чэкісты патрабавалі ад пракуратуры дапытаць у якасці падазраванага аднаго з ініцыятараў «Стоп-бензіну» Арцёма Шаркова і выступіць з пагрозлівымі заявамі ў СМІ, каб застрашыць патэнцыйных удзельнікаў будучых пратэстаў.

Акцыя «Стоп-бензін» была адным з самых масавых за апошні час выступаў супраць эканамічнай палітыкі ўладаў. Яна мела напаўстыхійны характар. У дзень рэзкага павышэння цэнаў на паліва сотні кіроўцаў блакавалі праспект Незалежнасці, што разбурыла прапагандысцкія схемы лукашэнкаўцаў і вымусіла іх прыпыніць рост цэн. Натуральна, акцыя была выключна мірнай.

Імаверна, на момант падпісання ліста КДБ не ведаў, хто арганізуе Маўклівыя пратэсты і «Стоп-бензін», не ведаў ролі Вячаслава Дзіянава — палітэмігранта, які перабывае ў Польшчы.

У лісце галоўным завадатарам акцый называецца іншы палітуцякач з Беларусі, Ігар Коктыш, які жыве ва Украіне.

З ліста Зайцава вынікае, што КДБ успрымала Маўклівыя акцыі і «Стоп-бензін» як значную пагрозу, дапускала, што яны могуць разгортвацца па нарастаючай і ацэньвала патэнцыйную колькасць удзельнікаў у 6000 асоб. КДБ грунтавала свае высновы на аналізе інтэрнэт-супольнасцяў у «Вконтакте».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Рыгор Васілевіч**

нарадзіўся ў 1955 у Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Доктар юрыдычных навук, прафесар. У 1997—2008 — суддзя і старшыня Канстытуцыйнага суда Беларусі. Ад лютага 2008 — Генеральны пракурор Беларусі. У верасні вызвалены ад пасады.

**«Стоп-бензіну» пакуль не будзе**

«Мы не планавалі праводзіць акцыю пасля чарговага павышэння коштаў на паліва. Практыка паказвае, што такое невялікае — на 3–6% — павышэнне не з'яўляецца крытычным, якое можа выклікаць пратэст вялікага ліку аўтааматараў», — сказаў кіраўнік руху «За аўто» Арцём Шаркоў. Паліва падаражэла ў чарговы раз у нядзелю.



КАМІТЭТ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

пр. Незалежнасці, 17, 220030, г. Мінск
тэл.: (8 017) 227-00-81, факс (8 017) 226-00-38

КОМИТЕТ ГОСУДАРСТВЕННОЙ БЕЗОПАСНОСТИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

пр. Независимости, 17, 220030, г. Минск
тел.: (8 017) 227-00-81, факс: (8 017) 226-00-38

14.06.2011 № 4/2/2-910дсп

На № ______ ад ______

ДСП
Экз. № 1 (1)

ЛИЧНО
Генеральному прокурору
Республики Беларусь
государственному советнику
юстиции 1 класса
Василевичу Г.А.

О отношении деструктивных
Интернет - сообществ и групп

14.06.11

Уважаемый Григорий Алексеевич,

По полученным Комитетом государственной безопасности данным, в социальной сети «Вконтакте» представители Интернет-групп под названием «Революция через социальную сеть» (Беларусь)

### З апублікаванага ліста вынікае асаблівая роля шэфа КДБ Вадзіма Зайцава.

Вольга Швед нічога не піша пра крыніцу, з якой атрымала дакумент. З апублікаванага ліста вынікае асаблівая роля шэфа КДБ Вадзіма Зайцава.

Ён патрабаваў палітычнай крымінальнай справы ў сітуацыі, калі ніякіх небяспечных для грамадства дзеянняў не адбылося.

Раней некаторыя назіральнікі акурат з ягонай асобай звязвалі жорсткае абыходжанне з палітвязнямі ў турме КДБ. Праваабаронцы і пацярпелыя палітвязні ахарактарызавалі тыя прыёмы як катаванні. Адпаведныя сведчанні дакументаваліся для патэнцыйнай перадачы ў міжнародныя судовыя інстанцыі. Акрамя таго, на час кіравання Зайцава прыпадаюць спробы вярбоўкі з дапамогай шантажу важных удзельнікаў мінулай прэзідэнцкай кампаніі — гэта публічна выкрылі экс-кандыдат Алесь Міхалевіч і кіраўнік штаба самага папулярнага з апазіцыйных кандыдатаў, Андрэя Саннікава.

47-гадовы Зайцаў нарадзіўся ва Украіне. Палітолагі лічаць яго чалавекам, блізкім да старэйшага сына Аляксандра Лукашэнкі, Віктара.

Як вядома, пракуратура крымінальнай справы па «Стоп-бензіне» і Маўклівых пратэстах не распачала. Сапраўды, угледзець склад злачынства ў тых акцыях юрысту было немагчыма.

Не выключана, што гэтае «законніцтва» Васілевіча і каштавала яму крэсла. Аляксандр Лукашэнка вызваліў Рыгора Васілевіча ад пасады Генеральнага пракурора ў верасні, прычым на сустрэчы з новапрызначаным генпракурорам даў таму двухсэнсоўнае тлумачэнне.

**Мікола Бугай**

# Саўчанка ўсплыў у агракамбінаце

**Былы старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Саўчанка цяпер узначальвае агракамбінат «Мачулішчы».**

З пасады ў Гродне Саўчанка сышоў яшчэ летась у студзені, аднак увесь гэты час пра яго лёс не было навінаў.

Саўчанка сыходзіў са скандаламі. Крымінальныя справы былі заведзеныя на многіх гродзенскіх чыноўнікаў. Напрыклад, на начальніка міліцыі генерала Генадзя Хацько, старшыню Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў Аркадзя Карпуця. Неадназова чуліся абвінавачванні ў карупцыі ў кумаўстве.

Самай пашыранай версіяй было, што па адстаўцы Саўчанка займаецца папраўкай здароўя, хаця былі і іншыя размовы.

«Уладзімір Саўчанка вельмі балюча рэагаваў на крытыку (не ад прэзідэнта, іншых), выжываў непажаданых яму кіраўнікоў. Але самае галоўнае — страціў пачуццё адказнасці за даручаны ўчастак працы», — так казаў пра гродзенскага чыноўніка Лукашэнка.

За час кіравання ў аблвыканкаме Саўчанка адзначыўся разбурэннем гістарычнага цэнтра Гродна, а таксама крымінальнай справай супраць Мікалая Аўтуховіча. Першапачаткова лічылася, што ваўкавыскі прадпрымальнік рыхтаваў тэракт супраць «губернатара». Але на судзе такое абвінавачванне было знятае.

Агракамбінат «Мачулішчы» — адзін з найбуйнейшых у краіне. У яго склад уваходзіць дзесяць сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, у тым ліку ААТ «Александрыйскае» ў Шклоўскім раёне (радзіма Аляксандра Лукашэнкі).

За аб'яднаннем замацавана 87 тысяч гектараў зямлі ва ўсіх абласцях краіны. «Мачулішчы» з'яўляюцца падшэфнай гаспадаркай Нацбанка.

Цікава, што адзін з папярэдніх кіраўнікоў агракамбіната Аляксандр Ракевіч быў асуджаны на тры з паловай гады зняволення за карупцыю. Цяпер крэсла гендырэктара заняў Саўчанка.

**Зміцер Панкавец**



PHOTO.BYMEDIA.NET

Уладзімір Саўчанка (злева) запомніўся ў Гродне.

In memoriam

# Анатоль Казловіч

**14 кастрычніка памёр журналіст Анатоль Казловіч. Яму было 65 гадоў.**



Казловіч быў з Бярозаўскага раёна, пачынаў працаваць экскаватаршчыкам на Палессі. Менавіту гэтаму рэгіёну і была прысвечана большасць публіцыстычных і мастацкіх твораў Анатоля.

За савецкім часам Казловіч быў уласным карэспандэнтам маскоўскай «Літаратурнай газеты» ў Беларусі, загадваў аддзелам публіцыстыкі часопіса «Нёман».

Пасля прыходу да ўлады Лукашэнкі Казловіч стаў на бок вольнага слова. Быў намеснікам галоўнага рэдактара ў «Народнай волі».

Апошнім часам выкладаў журналісцкія дысцыпліны ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце і ў Інстытуце парламентарызму і прадпрымальніцтва.

Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра.

**ЗП**

**Спачуванні праз nn.by**

Яшчэ адна светлая душа выправілася на спатканне з Вечнасцю. А з ёю — і часцінка маёй душы, з юнацтва захопленай і балючымі, і гаючымі, але заўсёды шчырымі і трапяткімі радкамі-споведзямі Анатоля. Спачуванні родным, спачуванні нам усім...

**Кастусь Севярынец**

Бліскучы журналіст. Сапраўдны прафесіянал. Сапраўды, хварэў душой за Беларусь. Бывай, Толя.

**Сямён Букчын**

Я памятаю яго артыкулы. Чыталіся лёгка, цікава. Было там шмат роздуму, мудрасці. Светлая памяць!

**Ян**

# «Дырэктара пасадзім, а дольшчыкі заплацяць штраф»

**Мінгарвыканкам шантажуе** тых, хто ўсё ж спадзяецца на льготны крэдыт.

Сітуацыя з ільготным крэдытаваннем жылля абрастае ўсё новымі дэталямі, кожная з якіх б'е па кішэні дольшчыкаў. Нагадаем, на мінулым тыдні ўлады ў аднабаковым рэжыме спынілі льготнае крэдытаванне дамоў, якія здаюцца ў эксплуатацыю ў 2012 годзе і пазней. Гэта прывядзе да таго, што ў бліжэйшыя месяцы дольшчыкі будуць штомесяц даплачваць з уласных сродкаў некалькі мільёнаў рублёў, каб кампенсаваць падаражанне кватэры.

Аднак, як выявілася, не могуць атрымаць грошы на будаўніцтва нават тыя беларусы, дамы якіх здаюцца сёлета. Насуперак існуючым дакументам, Мінгарвыканкам раптам вырашыў, што яны не паспеюць скончыць будоўлю, а таму не дае ні рубля.

Пра гэта расказалі дольшчыкі, якія будуюць кватэры на Лагойскім тракце ў Мінску. Заказчыкам выступае дзяржаўная арганізацыя — «УКС адміністрацыі Савецкага раёна Мінска». Іх дом знаходзіцца ў афіцыйна зацверджаным спісе дамоў, якія здаюцца ў эксплуатацыю да 31 снежня 2011 года. Занепакоеныя тым, што «Беларусбанк» не пералічыў чарговы плацеж, яны адправіліся на прыём да першага намесніка старшыні камітэта будаўніцтва і інвестыцый Мінгарвыканкама Мікалая Бутрыма, які растлумачыў дольшчыкам пазіцыю дзяржавы.

### Сумесная адказнасць

Па словах чыноўніка, грошы могуць быць выдзеленыя толькі ў тым выпадку, калі генеральны дырэктар кампаніі-забудоўшчыка напіша гарантыйны ліст, у якім паабяцае здаць дом да канца года. Калі ж, атрымаўшы грошы, будаўнікі не паспеюць да 31 снежня, Мінгарвыканкам ініцыюе крымінальную справу. Гендырэктара забудоўшчыка будуць абвінавачваць у «выманьванні крэдыту ці датацый». Згодна з ч.2 арт. 237 Крымінальнага кодэкса, «прадастаўленне ... загадзя лжывых дакументаў ..., здзейсненае з мэтай атрымання дзяржаўнага мэтавага крэдыту ... караецца абмежаваннем волі на тэрмін ад двух да пяці гадоў ці пазбаўленнем волі на той самы тэрмін».

**Норма пастаноўкі на ўлік у Мінску цяпер складзе ўсяго 10 квадратных метраў на чалавека.** »

Але пакараць Мінгарвыканкам гатовы і дольшчыкаў! У іх дамовах з «Беларусбанкам» ёсць пункт наконт «неправамернага атрымання ці нямэтавага выкарыстання крэдыту». Згодна з ім, банк мае права патрабаваць датэрміновае вяртанне крэдыту з выплатай працэнтаў у памеры падвоенай стаўкі рэфінансавання (зараз — 70%). Паводле слоў Бутрыма, такая магчымасць будзе выкарыстана.

Зараз дольшчыкі з дома на Лагойскім тракце вырашаюць, якую тактыку дзеянняў ім абіраць далей. З такімі самымі праблемамі сутыкнуліся мінчукі з дзясятка іншых дамоў, якія павінны быць здадзеныя ў эксплуатацыю да канца 2011 года. Без банкаўскіх сродкаў будоўля спыніцца, і тады дом у любым выпадку не паспее дабудавацца.

Улады робяць усё магчымае, каб выплаціць па цяперашніх умовах ільготнага крэдытавання як мага меней грошай. А ў наступным годзе правілы гульні стануць іншымі.

### Чарга рассмокчацца сама

Чыноўнікі вызначылі новыя падыходы да фармавання чаргі на паляпшэнне жылля. Напрыклад, норма пастаноўкі на ўлік у Мінску цяпер складзе ўсяго 10 квадратных метраў на чалавека. У дадатак, зараз пры выдзяленні льготнага крэдыту прапануецца ўлічваць не толькі жыллё, якое ёсць «ва ўласнасці ў членаў сям'і ў канкрэтным населеным пункце», але і ва ўсёй краіне.

Чарга страціць сваю прывабнасць па простай прычыне. Ільготныя крэдыты — імаверна, пад 7% гадавых — змогуць атрымаць толькі наступныя катэгорыі грамадзянаў. Напрыклад, гэта шматдзетныя ці малазабяспечаныя сем'і, маладыя спецыялісты і тыя, хто пражываюць у інтэрнатах больш за 10 гадоў. Агулам — 120 тысяч сем'яў. Астатнія беларусы з чаргі змогуць атрымаць грошы пад 31%, што робіць для іх недаступным будаўніцтва ў бліжэйшай перспектыве.

**Ягор Марціновіч**

# Румас абяцае самы рынкавы курс

Пачатак на старонцы 1.

Перад заявай віцэ-прэм'ера курс рос з шалёнай хуткасцю і па стане на пятніцу дасягнуў рэкордных 9010 рублёў. Абяцанне віцэ-прэм'ера чакана выклікала зніжэнне попыту на валюту на дадатковай сесіі, умацаваўшы рубель.

Лагічна, што кампаніі не хацелі купляць «дарагую» валюту, калі, як мяркуецца, з 20 кастрычніка можна будзе набыць параўнальна танную. Нагадаем, што 30% ад валютнай выручкі экспарцёры ўсё яшчэ вымушаныя прадаваць па нізкім курсе. Цяпер такі абавязак будзе зняты.

**ЯМ**


PHOTO BYMEDIA.NET

Афіцыйны курс даляра (на 19.10.2011) — 5692 рублі.

Курс даляра на дадатковай сесіі (на 18.10.2011) — 8990 рублёў.

Розніца паміж імі — 58%.

**Валюта ёсць**

Сайт Пракапові.ч канкурэнцыі з легальнымі абменнікамі не вытрымаў. Валюту цяпер можна купіць у кожным банку.

**Магчымасць спекулятыўна зарабіць**

Гэтым шанцам ўдала скарысталіся многія беларусы. Прадаючы даляр на максімуме і купляючы на мінімуме, можна было «накруціць» каля 20% ад сумы. Пры больших абаротах прыбытак выглядаў вельмі прывабным. У народзе пашыранае меркаванне, што асобы з уладаў мелі інфармацыю пра ваганні курса значна раней, на чым і рабілі вялікія грошы.

**Што дала дадатковая сесія?**

14 верасня, у першы дзень таргоў, біржавы курс даляра склаў 8600 рублёў. Шмат гэта ці мала, ніхто так і не зразумеў. Нацбанк рабіў выгляд, што не ўмешваецца ў ход правядзення таргоў, але прадпрымальнікі абураліся — іх заяўкі на куплю валюты адхіляліся без тлумачэння. Без бачных на тое прычын даляр спачатку поўз уніз. Пасля выступлення Надзеі Ермаковай, якая заявіла, што Нацбанк рыхтуе інтэрвенцыі, каб утрымаць курс, даляр імкліва рвануў уверх, абагнаўшы нават стартавы ўзровень.

# Лукашэнка абяцае Катару радовішчы калію

А **непасрэдна «кіруючай сям'і»** — паляўнічыя ўгоддзі.

У распараджэнне прэсы трапіў пратакол даручэнняў Аляксандра Лукашэнкі па выніках візіту 15—16 жніўня ў Катар. Дакумент пазначаны грыфам «Для службовага карыстання».

Так, да 31 кастрычніка 2011 года трэба вызначыць межы зямельных участкаў для «Катарскага вострава» ў Беларусі і падрыхтаваць мемарандум аб узаемаразуменні па рэалізацыі гэтага праекта. Праект курыруе Нацбанк і нейкае ПУП «Тэхналогіі кіравання», якім даручана падрыхтаваць нарматыўную базу для стварэння зон «з максімальна льготным рэжымам для функцыянавання фінансавых і банкаўскіх цэнтраў, у тым ліку ісламскіх структур».

Катарцам паабяцалі долю ў новых прадпрыемствах па здабычы калійных угнаенняў на Акцябрскім і Петрыкаўскім радовішчах, а таксама ў распрацоўцы ў Беларусі радовішчаў жалезнай руды.

Да 31 кастрычніка на разгляд кампаній «Катар Холдынг» і «Катар Эйруэйз» будзе прапанаваны варыянт набыцця або перадачы ва ўпраўленне аэрапорта «Брэст», а таксама магчымасць арганізацыі простага авіярэйса паміж Мінскам і Дохай.

Не абдзелена ўвагай і «кіруючая сям'я Катара», якой будуць выдзелены «зямельныя ўчасткі для магчымага будаўніцтва на іх рэзідэнцый і арганізацыі паляўнічых угоддзяў».

Сур'ёзнасць намераў падмацавана ўдзелам у сумесных праектах персоны Уладзіміра Пефціева. Так, яго «БТ Тэлекамунікацыі», што трапіла пад санкцыі ЕС, будзе ўдзельнічаць у патэнцыйна самым прыбытковым праекце па стварэнні супольных прадпрыемстваў з «Катар Петралеум» па выпуску комплексных угнаенняў у Катары і Беларусі.

**Паводле Charter97.org**



PHOTO BYMEDIA.NET

# Станок працуе на знос

За месяц на кожнага беларуса **надрукавалі** 340 тысяч новых рублёў.

Чарговыя статыстычныя выкладкі Нацбанка прымусілі эканамістаў схапіцца за галаву. За месяц рублёвая маса пашырылася ажно на 9%. Па стане на 1 верасня яна складала 35,42 трыльёна, а на 1 кастрычніка было ўжо 38,64 трыльёна. Атрымліваецца, што на кожнага беларуса надрукавана 340 тысяч новых рублёў.

Лічба даволі чаканая, калі ўлічыць што праз знакамітыя «500 тысяч» на руках у беларусаў апынуліся нічым не забяспечаныя 1,7 трыльёна.

Тым часам афіцыйная інфляцыя ўжо вырасла на 80% з пачатку года і па самых аптымістычных прагнозах складзе 100%. Адметна, што ў верасні цэны раслі хутчэй, чым у любым іншым месяцы.

**ЯМ**

## Сціслa

**Імпартны абутак моцна падаражэе.**

«Беллегпрам» ініцыяваў увядзенне мытаў на імпарт скуранога абутку ў межах Мытнага саюза. Мыта мусіць скласці 20% ад кошту абутку, але не менш як 2,7 еўра за пару.

**Стаўка рэфінансавання — 35%.**

Гэта дзясятае за год павышэнне. Пачыналася ўсё з 10,5%. У выніку растуць стаўкі па крэдытах і дэпазітах.

**Восьмае падаражанне паліва**

З 16 кастрычніка ў восьмы раз за год павялічыліся цэны на бензін і дызельнае паліва. Рост цаны склаў 3-5%. Цяпер літр бензіна АІ-92 каштуе 4 970 рублёў (у пачатку года — 2870), а літр дызельнага паліва — 5 360 рублёў (раней — 2580).

**ЯМ**

# У Заслаўі перабоі з электрычнасцю і вадой

**Тым не менш, горад хочуць зрабіць турыстычным цэнтрам.**

Уявіце сабе сітуацыю: падача вады ў кватэры ў вашым доме цалкам залежыць ад наяўнасці электраэнергіі. Любое адключэнне святла хоць на некалькі секунд аўтаматычна цягне за сабой адключэнне вады. І гэта не самае страшнае. Яна неўзабаве з'явіцца, але ў выглядзе бурай вадкасці з непрыемным пахам, якую давядзецца зліваць паўгадзіны і болей.

Яшчэ ўявіце, што часта электрычнасць у вашым доме знікае ў часе моцнай навальніцы. Гэта значыць, што ад мая да верасня вам даводзіцца па некалькі разоў на тыдзень зліваць «шакалад».

Або такі выпадак. Вы загрузілі ў пральную машыну бялізну, а недзе пасярэдзіне працэсу ў вас адключылі ваду. На некалькі хвілін, вы нават не заўважылі. Але гэтага дастаткова, каб машынка насмакталася іржы і ваша бялізна «пафарбавалася».

Натуральна, такая вада малапрыдатная і для прыгатавання ежы. Таму смела дадавайце да лічбаў у жыроўцы паўсотні тысяч рублёў за фільтр для вады. Рэгулярнае зліванне бруднай вады пасля ўвядзення нарматыву расходу вады ў 140 літраў на чалавека ў суткі стане не толькі жыццёвай, але і дарагой неабходнасцю.



Апісаныя вышэй прыклады — з рэальнага жыцця нашага Заслаўя, горада са статусам спадарожніка сталіцы. І не важна — жывяце вы ў старой «хрушчобе», ці ў зусім новым доме — гэта агульная праблема.

Вось і зараз, у сярэдзіне кастрычніка, у Мікраёне №2 Заслаўя на тыдзень адключылі гарачую ваду. Мясцовая ЖКГ абгрунтоўвае «часовыя нязручнасці» заменай цеплатрасы. Пытанне, чаму гэтага не зрабілі гэта летам, застаецца без адказу.

Пракладаюць камунікацыі ў гэтыя дні і каля мясцовага Палацу культуры. Працы тут пачаліся ў сярэдзіне верасня, што пацвердзіць любы мясцовы жыхар, хоць акурат у гэтым месяцы яны мусілі ўжо скончыцца.

### «З малога пачынаецца глабальнае»

Алена Палякова з тых мінчукоў, што некалькі гадоў таму перабраліся жыць у прыгарад. Заслаўе — горад з лепшай, чым у сталіцы, экалогіяй, сюды зручна дабірацца. Паляковы пасяліліся ў новы дом, збудаваны ў 2007-м. Але гэта не засцерагло іх ад пабытавых нязручнасцяў. Рэгулярныя адключэнні святла і брудная вада з кранаў — гэта толькі некалькі прыкладаў. Жыхары дома неаднойчы ўздымалі «воднае» пытанне на сустрэчах з мясцовымі ўладамі, але безвынікова.

«Заслаўе — горад-спадарожнік. Праграма развіцця яго вельмі неблагая. Але на практыцы амаль не рэалізуецца», — кажа Алена Палякова. На яе думку, пачынаць трэба акурат з малога. Камфортнае жыллё без камунальных праблем, інфраструктура — ад дзіцячых пляцовак і зялёнай зоны да якасных дарог.




« Пад Заслаўем усталявалі самае вялікае ў Беларусі святлодыёднае табло, затое ў самім горадзе можна ўтапіцца ў калюжынах.

Нельга збудаваць турыстычны рай у мястэчку, дзе жывуць неўладкаваныя і злыя на лёс жыхары. Але бяда ў тым, што просты чалавек не ўплывае на рашэнні ўладаў. Той жа бюджэт, ні фармаванне, ні выкарыстанне яго ад месцічаў ніяк не залежыць.

Пад Заслаўем на грабным канале ўсталявалі за бюджэтныя грошы самае вялікае ў Беларусі святлодыёднае табло, затое ў самім горадзе пасля моцнага дажджу ў двары можна ўтапіцца ў калюжынах.

У доме Паляковых таксама часова адсутнічае гарачая вада — побач будуецца новы дом, акурат цяпер ідзе пракладка камунікацый. Іронія лёсу ў тым, што сярод іншых у навабуд у хуткім часе магчыма засеяліцца і сем'і мясцовых чыноўнікаў, ад якіх і залежыць вырашэнне гарадскіх праблем. І калі сітуацыя не зменіцца, яны самі стануць закладнікамі камунальных сюрпрызаў. «Мы ўсе жывём у адным горадзе. І не хочацца чакаць, што чыноўнікі возьмуцца за вырашэнне праблем толькі пасля таго, як апынуцца ў нашай скуры. Хочацца нармальна жыць тут і цяпер», — думаецца, пад гэтымі словамі падпішуцца жыхары не толькі гарадоў-спадарожнікаў.

**Сямён Печанко**

# Студэнтам будуць даплачваць

**Навучэнцам ВНУ — 65% ад стыпендыі штомесяц, аспірантам і дактарантам — 30%.**

З 1 лістапада ўступае ў сілу ўказ № 460 «Аб аказанні дзяржаўнай сацыяльнай падтрымкі навучэнцам». Згодна з ім, студэнтам будуць налічваць штомесячную даплату ў памеры 65% ад стыпендыі, аспірантам і дактарантам — 30%.

Акрамя навучэнцаў і студэнтаў, даплату ў памеры 65% ад стыпендыі будуць атрымліваць дзеці-сіроты, дзеці, пакінутыя без апекі бацькоў, а таксама тыя з іх, хто рыхтуецца да паступлення ў навучальныя ўстановы.

Нагадаем, што ў верасні Лукашэнка падпісаў указ №398 «Аб сацыяльнай падтрымцы навучэнцаў», згодна якога памеры стыпендый у Беларусі будуць прывязаны да тарыфнай стаўкі першага разраду (якая, дарэчы, з 1 кастрычніка вырасла са 118 тыс. да 151 тыс. рублёў).

Акрамя павышэння стыпендый, сталічным студэнтам дзённай формы навучання гарадскія ўлады зрабілі падарунак у выглядзе бясплатнага праезду ў гарадскім грамадскім транспарце. Ініцыятыва Мінгарвыканкама выклікала незадаволенасць у кіраўнікоў Брэсцкай і Гродзенскай абласцей.

**СП**

## Слоўнік Некрашэвіча і Байкова ў Гродне

21 кастрычніка ў 19.00 у Гродне адбудзецца прэзентацыя нядаўна апублікаванага «Расійска-беларускага слоўніка» Некрашэвіча і Байкова з уздзелам яго выдаўцоў. Таксама будзе прадстаўленая самая рэзанансная сёлетняя паліталагічная публікацыя — «Хрышчэнне нацыі. Масавыя пратэсты 1988 — 2009», дзе аналізуецца дэмакратычная актыўнасць у Гродне цягам апошніх 20 гадоў. Падчас імпрэзы гісторык Андрэй Мацук раскажа пра спецыяльны тэматычны выпуск ARCHE, прысвечаны Беларусі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага ў XVIII стагоддзі.

Сустрэча адбудзецца па адрасе: **вул. Будзённага, 48а** (зала ва ўнутраным дворыку).

**Запрашаем на імпрэзу ўсіх гарадзенцаў, зацікаўленых у сваёй мове, культуры і гісторыі.**

# Вярнулі толькі «Ганцавіцкі час»

**У падпісным каталогу «Белпошты» па-ранейшаму няма незалежных рэгіянальных выданняў.**

У падпісным каталогу «Белпошты» на першае паўгоддзе 2012 па-ранейшаму адсутнічаюць многія незалежныя рэспубліканскія і рэгіянальныя выданні. Ні баранавіцкі Intex-press, ні «Борисовские новости», ні мінскі «Новы час» у каталог не трапілі.

Галоўны рэдактар «Борисовских новостей» Анатоль Букас кажа, што ў гэтым годзе нават не спрабаваў звяртацца ў «Белпошту». «Не бачу сэнсу губляць час на гэта», — тлумачыць галоўны рэдактар. Па яго словах, у пачатку года «Мінаблсаюздрук» прапанаваў рэдакцыі супрацоўніцтва, але потым сам жа і адмовіўся.

Галоўны рэдактар «Новага часу» Аляксей Кароль таксама перастаў пісаць кіраўніцтву «Белпошты». «Нам дзясятак разоў адмаўлялі. Мы звярталіся нават да Паўла Якубовіча, той нібыта паабяцаў зрабіць усё магчымае, але нічым тое не скончылася». Сп. Кароль кажа, што яго-нае выданне ад самага пачатку існавання пасля закрыцця газеты «Згода» не мела права на распаўсюд праз «Белпошту» і «Белсаюздрук».

**«Якубовіч паабяцаў зрабіць усё магчымае, але нічым тое не скончылася».**

Газета «Ганцавіцкі час» ужо год, як вярнулася ў паштовы каталог і шапікі. Намеснік галоўнага рэдактара Пётр Гузаеўскі расказвае, што гэта было нечаканасцю для рэдакцыі пасля гадоў бясплённай перапіскі. Вяртанне дало хоць і невялікі, але рост накладу газеты. Гэта, падкрэслівае Пятро Гузаеўскі, вельмі важна, улічваючы, як хутка скарачаецца насельніцтва рэгіёна і ў цэлым няпростую эканамічную сітуацыю.

**СП**

У пачатку 2006 больш за дзясятак незалежных выданняў апынуліся па-за дзяржаўнай сістэмай распаўсюду. «Белсаюздрук» і «Белпошта» матывавалі гэта эканамічнай немэтазгоднасцю супрацоўніцтва з недзяржаўнай грамадска-палітычнай прэсай. У 2008-м у падпісныя каталогі пошты і шапікі «Белсаюздруку» вярнуліся газеты «Наша Ніва» і «Народная воля». Для «Новага часу» ды іншых выданняў шэсць гадоў нічога не змяняецца.

# З’ехалі дзясяткі, вяртаюцца адзінкі




**Палітуцекачы Зміцер Бародка (справа) і Алесь Зарамбюк (у цэнтры) заснавалі ў Варшаве Беларускі Дом. На сустрэчы з амерыканскім дыпламатам Дэвідам Джонсанам.**

«НН» расшукала тых, хто пасля Плошчы **выехаў за мяжу**.

Рэпрэсіі супраць апазіцыі пасля выбараў 19 снежня спарадзілі хвалю эміграцыі з краіны. З таго часу прайшло дзесяць месяцаў.

З палітуцекачоў вярнуўся толькі адзін — **Андрэй Кім**. Пасля выбараў ён правёў сем месяцаў у Расіі і Украіне. За гэты час ён ініцыяваў кампанію салідарнасці з палітвязнямі, якую падтрымалі многія вядомыя замежнікі.

Чацвёра ўцекачоў сталі фігурантамі крымінальнай справы: Алесь Міхалевіч, Наталля Радзіна, Мікіта Красноў, Леанід Навіцкі. Першыя двое прайшлі праз ізалятар КДБ.

Міхалевіч атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі, Радзіна — у Літве. Крымінальную справу ў адносінах да Радзінай спынілі за адсутнасцю складу злачынства.

Давераная асоба Алеся Міхалевіча **Мікіта Красноў** цяпер знаходзіцца ў Варшаве. Пасля падзей 19 снежня ён выехаў у Вільню, дзе вучыўся ў ЕГУ. Затым — у Польшчу.

Мікіта нічога не ведае пра свой цяперашні статус. «Даваў запыт у чэрвені. Але адказу так і не атрымаў. Бо патрабавалі, каб я з’явіўся асабіста». Вяртацца ў Беларусь не спяшаецца. «Ёсць аб’ектыўныя рэчы, якія пакуль не дазваляюць зрабіць такі крок». Прасіць палітычнага прытулку пакуль не хоча.

**Вярнуўся толькі Андрэй Кім, сёлета збіраюцца назад Алег Мяцеліца і Віктар Гарбачоў.** »

Палітычны прытулак ва Украіне і Польшчы папрасіла давераная асоба Мікалая Статкевіча **Віктар Канцавенка.** У блокбастары БТ «Плошча. Жалезам па шклу» яму прыпісвалася роля чалавека, які нібыта замаўляў у Жлобіне выраб металічнай арматуры для пагромаў.

**Зміцер Бародка**, давераная асоба Саннікава, цяпер у Варшаве. «Першая думка была — перачакаць увесь гэты гвалт. Асэнсаваць, што адбылося, вызначыцца з далейшай тактыкай і стратэгіяй дзеянняў». З калегамі Зміцер адчыніў Беларускі Дом у польскай сталіцы.

«Заставацца тут ці вяртацца — гэта ў вялікай ступені залежыць ад таго, ці будуць спынены рэпрэсіі супраць дэмакратычнай грамадскасці, ці будуць вызвалены лідары апазіцыі», — кажа З.Бародка.

**Юрась Алейнік**, давераная асоба Уладзіміра Някляева, выехаў у Літву. Цяпер ужо знаходзіцца ў Расіі. «Усё вельмі хутка мяняецца ў адрозненне ад вясны. Сёння я тут, а заўтра магу быць на радзіме».

Актывіст з Бялынічаў **Алег Мяцеліца** ў Літве. На выбарах ён з’яўляўся даверанай асобай Някляева. У Вільні ўзначальвае офіс Грамадзянскага і палітычнага прадстаўніцтва Беларусі. Алег спадзяецца, што сёлета ўсё-ткі вернецца ў краіну. А не вярнуўся раней, бо лічыць, што небяспека застаецца: «Не магу рызыкаваць, пакуль не наладжу працу прадстаўніцтва».

Іншая давераная асоба Някляева, прадпрымальнік з Барысава **Віктар Гарбачоў,** таксама ў Вільні. «Планую вярнуцца. Да Новага года дакладна. Думаю, улада і сілавікі хацелі б, каб мы тут засталіся назаўжды».

Ва Украіне знаходзіцца дысідэнт **Вячаслаў Сіўчык**. У верасні ў Львове пачало працу грамадскае аб’яднанне «Беларускі цэнтр», якое ён узначаліў.

**Юлія Слуцкая**, якая кансультавала штаб Някляева, у Варшаве спачатку заснавала Бюро салідарнасці з дэмакратычнай Беларуссю, а пасля з калегамі адкрыла «Прэс-Клуб Беларусь».

За мяжой застаюцца таксама кіраўнікі «Свабоднага тэатра» **Мікалай Халезін** і **Наталля Каляда**, адзін з лідараў «Правага альянсу» **Юрый Карэтнікаў**, кіраўнік лабараторыі «Новак» **Андрэй Вардамацкі**, а таксама дзясяткі эмігрантаў ранейшых хваляў.

**Сяргей Макарэвіч**

# Дзяўчыне не даюць абараніцца

Таццяна Касатая засталася **без працы**, а цяпер можа пазбавіцца і месца ў аспірантуры.

Спачатку ёй прапанавалі сысці па ўласным жаданні. Калі тая адмовілася, яе проста не атэставалі. Яе навуковы кіраўнік Валерый Чарапіца патлумачыў гэта тым, што ў другой частцы Таццянінай дысертацыі не ўбачыў нічога новага. Гэта была справаздача дзяўчыны за другі год навучання ў аспірантуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Тэма яе працы: «Дзейнасць евангельскіх хрысціян-баптыстаў у БССР. 1944—1991 гг.»

Таццяна лічыць прэтэнзіі да сваёй дысертацыі надуманымі. І звязвае неатэстацыю са сваёй грамадскай пазіцыяй. Летась яна ўдзельнічала ў зборы подпісаў за наданне адной з вуліц Гродна імя Васіля Быкава, арганізаваным кампаніяй «Гавары праўду». А падчас перадвыбарчай кампаніі падтрымала кандыдата Уладзіміра Някляева.

«Няма аб чым з вамі гаварыць», — так адрэагаваў Валерый Чарапіца на просьбу патлумачыць для «НН» сітуацыю вакол яго аспіранткі.

Канчатковае рашэнне пра далейшае навучанне Таццяны Касатай будзе прынятае на гэтым тыдні. Але сама дзяўчына ніякіх ілюзій не мае на гэты конт.

Таццяна тры гады адпрацавала малодшым навуковым супрацоўнікам у Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі. Пасля выбараў адміністрацыя музея папярэдзіла дзяўчыну, што пры любым парушэнні дысцыпліны яе звольняць. Паколькі парушэнняў так і не было, яна працавала да заканчэння кантракта, які не працягнулі.

**СМ**



**Студэнта Валянціна Федзюка адлічылі з 4-га курса Міжнароднага інстытута працоўных і сацыяльных адносінаў за удзел у маўклівай акцыі ў чэрвені. Афіцыйная падстава для адлічэння —** вымова за пропускі заняткаў, парушэнне правілаў пражывання ў інтэрнаце і здзяйсненне дробнага хуліганства. Па словах Федзюка, спагнанні мелі месца акурат год таму — у кастрычніку 2010-га. Загад аб адлічэнні падпісаў новапрызначаны рэктар Станіслаў Князеў.

# Анархісты ў турме выкладаюць ангельскую мову, робяць насценгазеты

Жонка Міколы Дзядка Валерыя паведаміла, што ў калоніі на яе мужа скалалі чарговы пратакол за парушэнне. Нібыта ён «не выконвае план працы на прамысловасці». За гэта яго пазбавілі наступнай перадачы, якая чакалася ў лістападзе. А доўгачаканае спатканне з жонкай скарацілі да двух дзён.

Ад Ігара Аліневіча, асуджанага па адной справе з Дзядком і Францкевічам, пачалі даходзіць лісты да родных. Таксама ён патэлефанаваў упершыню за месяц. Яго бацькам дазволілі доўгатэрміновае спатканне, але толькі на адзін дзень. У калоніі Ігар выкладае англійскую мову сукамернікам.

Маці Аляксандра Францкевіча нядаўна вярнулася з доўгатэрміновага спатканн з сынам. Па яе словах, Саша пачуваецца добра, але заўважна схуднеў. Яна спрабавала забяспечыць для яго магчымасць дыетычнага харчавання (у маладога чалавека толькі адна нырка). Аднак у калоніі паведамілі, што яно належыць толькі ВІЧ-інфікаваным і хворым на сухоты. У калоніі Францкевіч займаецца насценгазетай.

**Кастусь Матушыч**

## Сцісла

### Апошні суд за Плошчу: 3 гады «хатняй хіміі»

12 кастрычніка вынесены прысуд апошняму абвінавачанаму па крымінальнай справе аб масавых беспарадках 19 снежня. Святаслаў Барановіч асуджаны на 3 гады абмежавання свабоды без накіравання ў месца адбывання пакарання. Ён абвінавачваўся ва ўдзеле ў масавых беспарадках 19 снежня.

### Севярынец не прызнае віны

Павел Севярынец адмовіўся пісаць заяву аб пераводзе на «хімію» па месцы жыхарства — у Віцебск. У абмен яму прапанавалі прызнаць сваю віну. Калі Павел адмовіўся, яму прапанавалі хаця б назваць сябе вінаватым перад «выхавацелямі». Але палітвязень усё роўна не пагадзіўся. Севярынец адбывае двухгадовую «хімію» ў вёсцы Куплін Пружанскага раёна. Працуе на складзе аўтазапчастак у фермерскай гаспадарцы «Бардо».

### Бяляцкі патрабуе беларусізаваць Крымінальны кодэкс

Зняволены праваабаронца Алесь Бяляцкі звярнуўся ў палату прадстаўнікоў нацыянальнага сходу, у Вярхоўны Суд, у Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў з заявамі аб тым, што парушаюцца яго правы ў працэсе падрыхтоўкі да судовага працэсу. Бо не існуе ні Крымінальнага, ні Крымінальна-працэсуальнага кодэкса на беларускай мове, што супярэчыць Канстытуцыі краіны.

**КМ**

# Правы «кашалька Лукашэнкі» ў ЕС абараняе найлепшая юрыдычная фірма Літвы

**Уладзімір Пефціеў** у судзе аспрэчвае санкцыі Еўрасаюза.

Яго інтарэсы ў чатырох позвах супраць Рады Еўрасаюза прадстаўляе аўтарытэтная літоўская юрыдычная кампанія LAWIN.

Пра тое, што Пефціеў накіраваў позвы, гаворыцца ў нядаўна апублікаваным афіцыйным часопісе Еўрасаюза. Усяго пададзена 4 позвы, усе датаваныя 12 жніўня 2011: адна ад Уладзіміра Пефціева як фізічнай асобы, тры — ад кампаній, уладальнікам або саўладальнікам якіх ён з'яўляецца (ЗАТ «Белтэхэкспарт», ПУП «БТ Тэлекамунікацыі» і ЗАТ «Спорт-пары»).

Па ўсіх іх адказчыкам з'яўляецца Рада Еўрасаюза і па ўсіх адзіная фармулёўка: адмяніць пастанову і рашэнне Рады ЕС ад 20 чэрвеня 2011, паводле якіх кампаніі Пефціева трапілі пад абмежавальныя меры ў дачыненні да Лукашэнкі і шэрагу беларускіх чыноўнікаў.

Нагадаем, што гэта рашэнне было прынятае супраць кампаній Пефціева і шэрагу беларускіх чыноўнікаў «з мэтай узмацнення фінансавага ціску на беларускія ўлады, каб прымусіць іх спыніць рэпрэсіі супраць апазіцыі». Пры гэтым крыніцы ў ЕС назвалі Пефціева «кашальком Лукашэнкі».

**Пазоўнікі лічаць недаказаным, што Пефціеў спансіруе Лукашэнку.** »

Доказная база ў пададзеных праз LAWIN позвах грунтуецца на 5 пунктах, у тым ліку і на тым, што Рада Еўрасаюза парушыла правы Пефціева «на абарону і справядлівае судовае разбіральніцтва».

Яшчэ адзін з пунктаў абвяшчае, што Рада ЕС «парушыла фундаментальнае права на ўласнасць».

Таксама, на думку пазоўніка, у Рады ЕС не было пераканаўчых доказаў, што Пефціеў «якім-небудзь чынам звязаны са спансараваннем рэжыму Лукашэнкі, якім-небудзь чынам удзельнічае ў парушэнні міжнародных выбарчых стандартаў і разгоне грамадзянскай супольнасці і дэмакратычнай апазіцыі або ўвозіць у Беларусь абсталяванне, якое можа быць выкарыстанае для ўнутраных рэпрэсій».

Пра дату разгляду позваў не паведамляецца.

Адзначым, што кампанія LAWIN, трое юрыстаў якой абараняюць інтарэсы Пефціева, у нядаўна апублікаваным рэйтынгу найлепшых юрыдычных кампаній свету IFLR1000 заняла першыя месцы ў Літве і Латвіі і другое ў Эстоніі.

Ej.by


PHOTO.BYMEDIA.NET

# Ірына Дарафеева нічога не чула пра чорныя спісы



А таксама **незнаёмая з творчасцю** гурта N.R.M.

Спявачка Ірына Дарафеева нічога не чула пра «чорныя спісы» беларускіх музыкантаў. Гэта негалосныя спісы дзеячаў культуры, якім забаронены выступ на афіцыйных канцэртных пляцоўках і дзяржаўных тэлеканалах, радыёстанцыях.

Пра гэта яна заявіла ў інтэрв'ю спартыўнаму парталу Goals.by. «Нічога не ведаю пра гэта», — кажа артыстка.

«Добра ведаю Лявона Вольскага, а з творчасцю гурта N.R.M. не знаёмая», — працягвае яна.

Разам з тым Ірына Дарафеева адзначыла, што рыхтуе дыск, у які ўвойдуць 170 песень, у тым ліку песні на вершы Уладзіміра Някляева.

АГ

# Івашкевіча судзілі і днём і ноччу


На Народным сходзе Івашкевіч прамаўляў пад буслянкай.
СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Адзін з арганізатараў Народнага сходу **атрымаў штраф**. .

Івашкевіча міліцыя злавіла праз пяць дзён пасля сходу на Бангалоры, то бок 13 кастрычніка.

Суддзя Кірыл Полулех разглядаў справу аж сем з паловай гадзін. Прысуд быў вынесены ўжо па сканчэнні працоўнага дня, у 21.30.

Івашкевіч спасылаўся на закон аб рэспубліканскіх і мясцовых сходах і быў гатовы прадэманстраваць подпісы грамадзян за скліканне сходу. Але суддзя гэтыя аргументы не ўзяў пад увагу.

Палітыка абвінавацілі ў парушэнні парадку арганізацыі ці правядзення масавага мерапрыемства або пікетавання. У выніку Івашкевіч атрымаў штраф у памеры 40 базавых велічынь (1,4 мільёна рублёў).

Іншы арганізатар, прафсаюзнік Генадзь Фядыніч, таксама чакае позвы ў суд.

На рашучасці Івашкевіча штраф не адбіўся. Цяпер ён заклікае грамадзян на новы сход — 12 лістапада.

ЗП

# Стан Валянціна Гафта цяжкі

Ён шпіталізаваны з **вострым інфарктам**.

Гафту стала кепска ў панядзелак проста перад пачаткам спектакля «Сон Гафта, пераказаны Віктюком». Лекары маскоўскага НДІ імя Скліфасоўскага ацэньваюць стан 75-гадовага акцёра як цяжкі, зараз ён знаходзіцца ў кардыярэанімацыйным аддзяленні.

Валянцін Гафт — вядомы расійскі акцёр тэатра і кіно, народны артыст РСФСР. Зняўся ў фільмах «Злодзей у законе», «Анкор, яшчэ анкор», «Нябёсы запаветныя», «Майстар і Маргарыта» ды інш.

АГ



# «Малако»: цэлай засталася толькі столь

Культавы бар «Малако» **зачыніўся**.



Месца, што зрабілася культавым сярод нефармальнай моладзі і творчай інтэлегенцыі сталіцы — бар «Малако» (пр. Незалежнасці, 37а), гучна спыніла сваё існаванне 15 кастрычніка вечарынай пад назвай «Апошняя кропля».

Можа быць, калі б колькасць наведвальнікаў у звычайныя дні была ідэнтычнай ахвотным трапіць на закрыццё, гісторыя бара склалася б інакш: многія так і не здолелі трапіць у памяшканне.

«Ну што, аматары «Малака», зладзілі вы нам закрыццё — цэлай засталася толькі столь...» — падвёў вынік адзін з арганізатараў вечарыны.

Budzma.org

# Сорак студэнтак пабіліся з-за аднаго хлопца

Гэта будучыя спецыялісты нафтавай галіны, бухгалтары, фінансісты.

Масавая бойка студэнтак адбылася ў Актобе, на захадзе Казахстана. Па паведамленні інфармагенцтваў, навучэнкі двух мясцовых каледжаў не падзялілі хлопца.

Па словах відавочцаў, у бойцы прынялі ўдзел каля 40 дзяўчын. Гэта будучыя бухгалтары, фінансісты, спецыялісты нафтавай галіны.

У дэпартаменце ўнутраных спраў не сталі раскрываць падрабязнасцяў інцыдэнту, аднак паведамілі, што заяў ад пацярпелых у паліцыю не паступала.

У верасні ў Актобе адбылася яшчэ адна масавая бойка навучэнцаў каледжаў, падчас якой была ўжыта агнястрэльная зброя.

ЯВ

**Цытата**

**«Перадайце прэзідэнту, няхай пачытае»**

«Іншы бывае прынясе кнігу і просіць: «Перадайце прэзідэнту, няхай пачытае». А праз пяць дзён патэлефануе і пытаецца, ці прачытаў той яго кнігу. Таму і мы не хочам сказаць, што трымаем бога за бараду. Будзем намагацца пісаць лепш кнігі. І будзем дапамагаць нашым талентам гэта рабіць. Нам што, прэзідэнт перашкаджае пісаць? — Не перашкаджае», — сказаў старшыня афіцыйнага Саюза пісьменнікаў Мікалай Чаргінец.

# На легіянерскіх хлябах

Бразільцы, амерыканцы, расіяне, камерунцы прыязджаюць у Беларусь, каб **зарабіць**.

### Мяч замест мяча

Некалі ў войскі Вялікага Княства Літоўскага запрашаліся легіянеры з суседніх дзяржаваў — татары, вугорцы, немцы, чэхі, шатландцы.

Гэта былі наёмныя вояры, якія за грошы баранілі сцяг княства. Па сканчэнні кантракта большасць вярталася на радзіму, хаця былі і такія, што абрасталі каранямі ў нас.

У цяперашні мірны час легіянеры нікуды не дзеліся і функцыі іх таксама, у прынцыпе, засталіся ранейшымі. Вось толькі мяч замест мячоў.

### Лонданцы без англічан

Гэта ўжо аксіёма, што легіянеры атрымліваюць больш за мясцовых. У каманды бяруць толькі тых чужакоў, якія нашмат мацней за тубыльцаў. На легіянераў

> **На легіянераў большыя спадзяванні, з іх найбольш пытаюць у выпадку пройгрышу.**

асаблівыя спадзяванні, з іх найбольш пытаюць у выпадку пройгрышу.

У сённяшнім еўрапейскім спорце легіянеры сталі звыклай з'явай. Бывала, што ў асноўным складзе лонданскага «Арсенала» не выходзіла ніводнага ангельца. Толькі шыльда сведчыла, што гэтая каманда з Лондана.

### «Дынамаўскі» інтэрнацыянал

У Беларусі падобныя тэндэнцыі таксама існуюць. Найперш гэта тычыцца хакейнага мінскага «Дынама». Колькі ўжо гэты клуб крытыкавалі за прапорцыі ў складзе сваіх і чужых.

Так атрымліваецца, што на галоўных ролях у камандзе легіянеры з Канады, Чэхіі, Славакіі, Фінляндыі. Нават трэнер чэх Марэк Сікора. А вось нашы хлопцы абмяжоўваюцца тым, што «цягаюць для лідараў пяніна» ў трэцім і чацвёртым звёнах.

У гэтым пытанні існуе два меркаванні. Ці рабіць «Дынама» базавым клубам для зборнай, што цяпер не робіцца. Ці дасягаць кароткачасовага выніку намаганнямі прыезджай сілы. Сёлета пакуль атрымліваецца досыць удала. Трыбуны «Мінск-Арэны» добра запаўняюцца.

### Канадцы з беларускімі пашпартамі

Праўда, здараецца, што вось толькі трыбуны палюбяць некага з хакеістаў, як ён памахае ім ручкай. Тое было, прыкладам, з фінам Ханэсам Хювяненам, якога прадалі ў казанскі «Ак Барс».

Выключэннем тут можа быць хіба канадзец Джэф Плат, які ўжо трэці сезон у Беларусі. Плат абжыўся ў нашай краіне да такой ступені, што ўжо падумвае пра змену грамадзянства.

А сёлета да гэтых думаў далучыліся яшчэ трое ягоных суайчыннікаў: брамнік Кевін Лаланд, абаронца Дэні Гру і нападаючы Чарльз Лінглет.

Невядома, ці канадцы самі выступілі з такой ініцыятывай, ці тое ім прапанавалі ў клубе. Самі яны не адмаўляюцца, але зазначаюць, што пашпарт з кляновым лістом губляць не хочуць.

Дарэчы, Дэні Гру «Дынама» ўжо пакінуў. Цяпер ён гулец «Югры». Цікава, ці ўспамінае хакеіст у ханты-мансійскай тайзе пра беларускую авантуру з грамадзянствам.



Канадзец Джэф Плат не супраць папацець за Беларусь.

### Траціна з Расіі

У хакеі натуралізаваныя канадцы — з'ява нярэдкая. Такія ёсць у Нямеччыне, Швейцарыі. Хаця Беларусь у гэтым плане ўсё адно наперадзе планеты ўсёй.

У беларусаў ці не траціна зборнай складаецца з былых расіян: Андрэй Мезін, Віталь Коваль, Мікалай Стасенка, Сяргей Дзямагін, Аляксей Угараў, Андрэй Сцяпанаў, Яўген Кавыршын.

Але наймацнейшымі ў беларускім хакеі з'яўляюцца ўсё ж свае. Міхаіл Грабоўскі з Мінска, а браты Касціцыны — з Наваполацка.

### Скандынаўскія брамнікі

Ва ўнутраным першынстве большасць легіянераў з абшараў былога СССР (Расія, Украіна, Латвія, Эстонія). Зрэдку трапляюцца чэхі і славакі.

Ёсць і два досыць каларытныя брамнікі са Скандынавіі — фін Окса і нарвежац Хаўген. Абодва пераходзілі ў мінскае «Дынама», каб загуляць у КХЛ, аднак не атрымалася. «Вікінгаў» аддалі ў арэнду «Юнацтву» і «Шахцёру» адпаведна.

### Свой бразілец

У футболе ў нас таксама ёсць свой Джэф Плат. Футбаліст БАТЭ бразілец Рэнан Брэсан ужо атрымаў беларускі пашпарт, а праз паўгода ён нарэшце зможа адзець майку зборнай.

Брэсан пераконвае, што, дзе б ён ні быў у будучыні, кавалак сэрца заўсёды будзе належыць Беларусі — краіне, якая дала яму пуцёўку ў футбол.

Дагэтуль у нацыянальнай камандзе выступалі ўкраінцы Сяргей Герасімец, а таксама браты Максім і Міраслаў Рамашчанка. А вось у палякаў у зборнай ужо быў легіянер — нігерыец Алісадэбе.

За «бела-чырвоных» ён выступаў пяць гадоў, за якія забіў адзінаццаць галоў. Потым яго перасталі выклікаць у каманду, а апошнім часам сляды Алісадэбе згубіліся недзе ў Кітаі.

### Ад Кае да Кежмана

Першымі легіянерамі не з постсавецкай прасторы на чэмпіянаце Беларусі былі таксама нігерыйцы — Петэр Кае і Мухамед Сані. Напрыканцы 1990-ых яны выступалі за мінскае «Тарпеда». З'яўленне цемнаскурых футбалістаў нярэдка выклікала прыступы расізму на стадыёнах.

З часам легіянеры сталіся нормай ва ўсіх айчынных камандах. Напрыклад, за БАТЭ гуляюць сербы Кежман і Сіміч, а таксама бразілец Алекс.



Амерыканца Дантэ Стыгерса хутка натуралізавалі і хутка згубілі.

### Беларусь вачыма француза

У мінскага «Дынама» цэлае бразільскае зямляцтва: Леанарда, Ледэсма, Фурлан. Таксама ў складзе гулец зборнай Габона Бруна Мбанангоі і француз Аральен Мантаруп.

Апошні, да слова, адзіны француз, які калі-небудзь гуляў у Беларусі. Да пераходу ў Мінск ён гуляў у камандах ніжэйшых ліг. «Прызнаюся, я ўяўляў Беларусь шэрай, сумнай, адзначанай жахамі вайны. Насамрэч Мінск цалкам адноўлены. Я быў здзіўлены аграмаднымі праспектамі. Мне сказалі, што гэта для таго, каб праходзілі танкі», — піша Мантаруп у сваім блогу.

Ён ужо тры гады гуляе ў Беларусі. «Футбаліст у гэтай краіне зарабляе 3 тысячы ў месяц, больш чым 10-разовае перавышэнне сярэдняга заробку. Яшчэ адзін прыклад багацця — дзяўчыны гульцоў з ног да галавы ў Gucci. Але хакеістам плацяць болей», — зазначае Мантаруп.

### Афрыканская дыяспара

Літоўскі легіён прадстаўлены ў першую чаргу брамнікамі: Курскіс («Шахцёр»), Скіндэрыс («Мінск»), Барткус («Дынама» Брэст). За «Гомель» гуляе эстонец Андрэй Сцяпанаў, які нядаўна са сваёй зборнай выйшаў у плэй-оф да чэмпіянату Еўропы. Ёсць грузіны, армяне, латышы.

Афрыканскі кантынент, апроч Мбанангоя, прадстаўляюць сенегалец Мендзі («Дынама» Брэст), івуарыец Сора («Мінск»), гвінеец Камара («Партызан»). Дзяўчат з Камеруна завозяць і жаночыя футбольныя клубы.

Хаця чарнаскурым цяпер нікога не здзівіш. За моладзевую зборную гуляе цёмны хлопец Ц'енчэн Вобга. Ягоны бацька — камерунец, а маці — беларуска.

### Дантэ не прыжыўся

Пакуль што далей за ўсіх пайшлі ў баскетболе. Там майку зборнай ужо прымяраў амерыканец Дантэ Стыгерс. Усе тры матчы, у якіх ён узяў удзел, беларусы прайгралі.

Відаць, Дантэ палічыў, што кашы з такой камандай не зварыш, і перастаў адгукацца на запрашэнні з Беларусі. Цяпер гуляе за грэчаскі ПАОК.

Магчыма, Стыгерс не будзе такім унікальным. За «Мінск-2006» гуляе трыа цемнаскурых амерыканцаў: Джуліяс Нокс, Джансціян Хокінс, Дэвон Хардынг. Яшчэ ёсць харват Ведран Накіч і літовец Роландас Руткаўскас. У беларускім баскетболе грошы ходзяць невялікія, але яны большыя, чым легіянеры могуць зарабіць у сябе дома.

### Барацьба і бокс за каўказцамі

У алімпійскіх відах спорту таксама нярэдкія выпадкі завозу легіянераў: біятлон, фрыстайл, мастацкая гімнастыка.

Зборныя па барацьбе і боксе часам нагадваюць каманды Паўночнага Каўказа.

Зрэшты, і самі беларусы нярэдка падаюцца на легіянерскія хлябы. У сённяшні імклівы час цяжка ўседзець на месцы.

**Зміцер Панкавец**



Сэкс-сімвал Ц'енчэн Вобга гуляе за моладзевую зборную Беларусі па футболе.

# Аўтамабіль з беларускімі нумарамі збіў 3-гадовую дзяўчынку ў Бранску

А за рулём аказалася **грамадзянка Расіі.**

Трагічнае ДТЗ адбылося ў Бранску 7 кастрычніка. «Фальксваген-Пасат» Ірыны Дабржанскай на пешаходным пераходзе збіў Ганну Сівакову і яе трохгадовую дачку Соню. Дабржанская ляцела са значным перавышэннем хуткасці, дый гаварыла з сяброўкай, а таму проста не заўважыла пешаходаў.

Адразу пасля аварыі жанчына выскачыла з аўтамабіля і кінулася на дапамогу пацярпелым. Маленькая Соня памерла, а яе мама была цяжка паранена.

Пасля здарэння ў жыхаркі Бранска Ірыны Дабржанскай пачалася серыя істэрык. 20-гадовая кіроўца спрабавала зрабіць сабе смерць. Супраць яе распачалі крымінальную справу. Дзяўчыне пагражае да сямі гадоў турмы. Сваёй віны яна не адмаўляе.

Дабржанская мае правы толькі год, і за гэты перыяд ДАІ чатыры разы штрафавала яе за парушэнне правілаў. Цяпер яна знаходзіцца ў сябе дома пад падпіскай пра нявыезд.

На аўтамабілі, на якім ехала Дабржанская, былі беларускія нумары. Аднак высветлілася, што іх скралі з аўтамабіля «Інфініці» ў Мінску. Ва Упраўленні МУС па Бранскай вобласці пацвердзілі, што нумары на аўто былі сапраўды беларускімі. Але як яны апынуліся ў расіянкі, сказаць не змаглі.

У Бранску сотні чалавек правялі вулічную акцыю з патрабаваннем пакараць вінаватую. Каб не адбыўся суд Лінча, спецназ вымушаны быў ачапіць дом Дабржанскіх.

**Сяргей Гезгала, КМ**




## Пракуратура назвала самагубствам смерць міліцыянта

Участковага з Баранавіч знайшлі **з прастрэленай галавой.**

23-гадовы Аляксандр Герасіменка толькі першы год працаваў у органах унутраных спраў. Яго знайшлі 29 жніўня на дарозе каля вёскі Уласы Баранавіцкага раёна ва ўласным аўто. У яго была прастрэлена галава з табельнай зброі, якая ляжала на каленях. Пракуратурай правяралася версія аб самагубстве, а таксама аб магчымай датычнасці да здарэння іншых асобаў.

Як паведаміў «НН» супрацоўнік следчага аддзела пракуратуры Брэсцкай вобласці па Баранавіцкім раёне Андрэй Раманюк, смерць участковага — гэта ўсё-ткі самагубства. Да такога выніку прыйшлі пасля праведзенай праверкі. Па словах Раманюка, факты датычнасці да смерці маладога чалавека трэціх асобаў не пацвердзіліся.

Разам з тым, знаёмыя Аляксандра Герасіменкі схільныя да любой версіі, але не да самагубства. Праўда, ніхто не можа нават уявіць, каму на дарозе малады чалавек мог стаць перашкодай.

**КМ**

## Беларускі дыпламат і яго 6-гадовы сын разбіліся пад Смаргонню

Мінівэн першага сакратара пасольства Беларусі ў Літве **ўрэзаўся ў МАЗ,** які не саступіў яму дарогу.

Сур'ёзная дарожная аварыя, у якой пацярпелі беларускі дыпламат і яго 9-гадовы сын, здарылася 14 кастрычніка ў Смаргонскім раёне. Паводле інфармацыі ДАІ Гродзенскай вобласці, у 17.50 на аўтастрадзе Мінск — Ашмяны — мяжа Літвы сутыкнуліся мінівэн Mitsubishi Space Runner і МАЗ. Грузавік выязджаў на трасу з пабочнай дарогі і не саступіў мінівэну, як таго патрабуюць правілы. На Mitsubishi ў Мінск ехаў першы сакратар пасольства Беларусі ў Літве Юрый Лабадзенка.

У выніку сутыкнення кіроўца мінівэна і яго сын атрымалі сур'ёзныя траўмы. Дыпламат аказаўся заціснутым у раструшчаным аўто, яго вызвалялі супрацоўнікі МНС. Па-цярпелых даставілі ў рэанімацыю, а на дадзены момант яны знаходзяцца ў Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры траўматалогіі і артапедыі.

У прэс-службе МЗС карэспандэнту «НН» па-ведамілі, што дыпламату і яго сыну аказваецца неабходная медыцынская дапамога.

**Сямён Печанко**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Пажар адбыўся 18 кастрычніка ў будынку Нацыянальнага алімпійскага камітэта (спартовы комплекс «Алімп»), што на Плошчы Якуба Коласа ў Мінску. Да месца здарэння прыехала больш за дзясятак пажарных машынаў. Паводле папярэдняй версіі, узгаранне адбылося ў вентыляцыйнай шахце. Былі, у прыватнасці, эвакуяваныя супрацоўнікі і наведнікі рэстарана «Лідо».**

## Студэнтка лічыла, што грошы крадзе дамавік

«**Дамавіку**» **пагражае** да чатырох гадоў зняволення.

Мінская студэнтка палічыла знікненне 600 тыс. рублёў, 1,3 тыс. даляраў, 400 еўра і ноўтбука са сваёй кватэры выхадкамі дамавіка, паведаміў прэс-афіцэр Кастрычніцкага РУУС сталіцы Антон Санкевіч.

А тым часам частым госцем у кватэры дзяўчыны стаў 21-гадовы будаўнік з Маладзечна, які прыехаў у сталіцу на заробкі. Ён усяляк падтрымліваў версію сваёй знаёмай пра барабашку, ледзь не штодня распавядаючы ўсё новыя гісторыі пра яго выхадкі.

Невядома, як доўга яшчэ «нячыстая сіла» жыла б за кошт студэнткі, калі б бацькі дзяўчыны не параілі той заявіць пра прапажу грошай у міліцыю.

Праваахоўнікі высветлілі, што не казачны персанаж, а менавіта новы знаёмы «сваволіў» у кватэры. Хлопец дакладна ведаў, дзе захоўваюцца зберажэнні студэнткі, і прысабечваў іх. Зараз у дачыненні да яго распачата крымінальная справа за крадзеж.

«Дамавіку» пагражае да чатырох гадоў пазбаўлення волі.

**Паводле БелТА**

## Пенсіянер спаліў даляры, а потым забіў жонку

74-гадовага жыхара Барысава падазраюць у жорсткім забойстве 67-гадовай жонкі. Паводле следства, пенсіянер пасварыўся з жонкай. У часе сваркі ён на вачах у жанчыны спаліў у вядры буйную суму валюты — 8500 даляраў і 1400 еўра. А потым некалькі разоў ударыў жонку малатком па галаве. Тая ад атрыманых траўмаў памерла. Мужчына быў нецвярозы. Раней не быў судзімы, меў вышэйшую адукацыю.

11 кастрычніка Мінская абласная пракуратура распачала крымінальную справу.

**Паводле БелаПАН**

## Сцісла

### 24-гадовы хлопец скочыў на рэйкі ў метро

17 кастрычніка ў 14.41 на станцыі метро «Кастрычніцкая» малады чалавек скочыў на рэйкі. Праз некалькі секунд падаспелі пасажыры падземкі і выцягнулі яго на платформу. Хлопец не пацярпеў. Міліцыя высвятляе акалічнасці здарэння і матывы ўчынку 24-гадовага мінчука.

### П'яныя маладзёны спынілі трамвай

У Мінску двое п'яных ушчэнт маладзёнаў спынілі трамвай паміж прыпынкамі. Супрацоўабуранага вагонаважатага яны зламалі з дапамогай кулакоў, дасталася і выпадковаму мінаку. Заведзена крымінальная справа, не першая ў кар'еры хуліганаў.

### Рабавалі банкі ў Германіі, грошы дзялілі ў Гродне

Беларуская міліцыя сумесна з паліцыяй Германіі затрымала ўдзельнікаў міжнароднай злачыннай групоўкі, якая рабавала банкі ў ФРГ. Усяго на рахунку рабаўнікоў 34 налёты на банкі, з якіх яны вынеслі больш за 800 тысяч еўра. Грошы дзяліліся паміж удзельнікамі банды ў Гродне, дзе жыве адзін з яе верхаводаў. Да арышту рабаўнікі жылі на шырокую нагу — ездзілі на дарагіх аўто, вячэралі ў мінскіх рэстаранах.

### Не перажылі першыя халады

У мінулыя выходныя ў Мінску ад пераахалоджвання загінулі 6 чалавек. Усе яны — мужчыны без пэўнага месца жыхарства.

**СП**

# Песні пратэсту супраць гламуру

«Камбайнёры» **парвалі расейскі інтэрнэт**: іх паслухалі 3 мільёны разоў.




*«Камбайнёры, трактарысты, грузчыкі кавунных фур — тыя хлопцы не з'яўляюцца ў снах гламурных дур»*, — пяе акцёр піцерскага тэатра «Буфф» Ігар Расцяраеў. Песню ён выканаў пад акампанемент гармоніка на сяброўскай вечарыне, прысвяціўшы знаёмаму камбайнёру. Нехта з прысутных зняў гэта на мабільны тэлефон ды выклаў відэа ў інтэрнэт.

У жніўні 2010-га, праз паўгода пасля з'яўлення, па незразумелых прычынах адбыўся выбух папулярнасці гэтага відэа: колькасць праглядаў «Камбайнёраў» за чатыры дні вырасла ад 600 да 300 000 — у пяцьсот разоў!

На сёння песню Расцяраева паслухалі ў інтэрнэце амаль 3 мільёны чалавек, а ўсе яго відэаролікі разам (сярод якіх «Руская дарога», «Казацкая песня» і «Георгіеўская стужка») — 10 мільёнаў.

«Гэта песня прысвячаецца ўсім сельскім пацанам», — пяе Расцяраеў. Ён, з аднаго боку, усхваляе працаўнікоў сяла, з іншага — гаворыць пра праблему співання вёскі (напрыклад, песня «Рамонкі», прысвечаная заўчасна памерлым сябрам-алкаголікам).

Расцяраеў пяе не толькі пра сацыяльныя праблемы. Ён прапануе суайчыннікам простую і эфектыўную схему патрыятызму. З яго песень ясна, чым ганарыцца і хто вораг. Пяе пра Сусаніна, казакоў, салдатаў Вялікай Айчыннай вайны і пра Афган. Нядобрым словам узгадвае «с...чку Кандалізу Райс» і «НАТАўскае атрэб'е», якім процістаяць «пацаны», што «служылі ў арміі радной».

Яшчэ Расцяраеў процістаўляе Расію Маскве і ўвогуле «вялікім гарадам», дзе пануюць модныя штучкі і гламур. Героі яго твораў «у сушы-барах не бываюць» ды «ў салярыі не загараюць», а «выпіўшы цэ два аш пяць о аш», сядаюць на «Россельмаш» ды «ўкалываюць» на полі, пакарміўшы перад гэтым парасят.

«На працягу нулявых панавалі «гламурныя стандарты»: капітал, улада грошай, шыкарнае жыццё, глянцавыя часопісы... Артысты, якія спрабавалі падымаць грамадзянскія тэмы і рабіць сацыяльна важныя заявы, з гэтага напрамку выпадалі, СМІ ігнаравалі іх.

Зараз усё мяняецца. Гэта — здаровая тэндэнцыя, тым больш для краіны, дзе гламурнасць 3-5% могуць сабе дазволіць. Астатнія вымушаныя нейкім чынам у гэта гуляць. Гуляць у забяспечанасць масам надаела», — кажа Аляксандр «Чача» Іваноў, лідар расійскага гурта «Наів» (дарэчы, занесенага ў беларускі «чорны спіс») у інтэрв'ю парталу «Взгляд».

Івана Расцяраева некаторыя параўноўваюць з Высоцкім ці нават з Ясеніным, а на шматлікіх форумах, прысвечаных яго творчасці, нават з'яўляліся заявы кшталту «Расцяраева — у прэзідэнты!». Найбольш часта творчасць піцерскага акцёра характарызуюць словам «шчырасць».

Песні выконваюцца без інтэлігенцкага пасмейвання. Пра жахі жыцця расійскай (тады яшчэ савецкай) перыферыі пры канцы 80-х заспяваў гурт «Сектар газа». Праўда, у іх песнях адцягвалі на сябе ўвагу брутальныя мацюкі, якія тады былі ў навіну. І не было такога яскравага сацыяльнага «антыгламурнага пратэсту».

У ліпені гэтага года Іван Расцяраеў атрымаў незалежную музычную прэмію «Стэпавы воўк» у намінацыі «Нешта» (гэтая прэмія дасталася таксама рэперу Нойз МС і «Ляпісу Трубяцкому»). Выступаў на галоўнай сцэне рок-фестывалю «Нашэсце».

Сам артыст у нядаўнім інтэрв'ю радыё «Зеніт» кажа: «Шмат хто нават з майго роднага тэатра шчыра здзіўляецца, што я ленінградзец. Яшчэ раней усе падазравалі, што я «аднекуль там», нейкі механізатар, які выпадкова трапіў у артысты».

Цікава, калі ж з'явяцца беларускія «расцяраевы», фанаты вёскі ды беларушчыны?

**Аксана Рудовіч**

**Макарэвіч напісаў песню «В Холуёво приезжает Путин»**

У ёй ідзе гаворка пра тое, як правінцыйны горад рыхтуецца да прыезду прэм'ер-міністра Уладзіміра Пуціна. Да гэтага лідар «Машыны часу» раскрытыкаваў рашэнне з'езда «Адзінай Расіі» вылучыць кандыдатам у прэзідэнты дзейнага прэм'ера. «Справа не ў Пуціну, а ў тым, што ёсць адчуванне, што нас пазбаўляюць рэштказ права выбару», — сказаў ён. Дарэчы, гітарыст «Чайфа» Уладзімір Бегуноў праспяваў на прэс-канферэнцыі песню «Козявка», прысвечаную тэлеканалу НТВ.Музыка вырашыў яе праспяваць пасля таго, як убачыў фільм «Няpraведнае дзела», прысвечаны кіраўніку фонду «Горад без наркотыкаў» Яўгену Ройзману. У фільме змагар з наркотыкамі, які пачаў супрацоўнічаць з партыяй «Правае дзела», быў прадстаўлены як крымінальнік.

# На беларускамоўных не знайшлі грошай

Перастануць выходзіць **«Раніца» і «Бярозка»** — два апошнія выданні для падлеткаў па-беларуску.

З кастрычніка не выдаецца газета «Раніца», а з Новага года перастане выходзіць часопіс «Бярозка». Іх закрыццё ўпакаванае ў казуістычную абгортку: «Раніца» робіцца дадаткам расейскамоўнай газеты «Переходный возраст», «Бярозка», як заяўляюць у холдынгу «Літаратура і мастацтва», будзе выходзіць раз на месяц пад вокладкай часопіса «Маладосць».

Закрыццё тлумачаць эканамічнай сітуацыяй. «Узнікае заканамернае пытанне, чаму з прычыны крызісу не зачыняюць той самы «Переходный возраст», «Юного спасателя» або, страшна сказаць, саму «Советскую Белоруссию» ці там «Рэспубліку», а сама лепш — БТ? — піша ў сваім блогу ў інтэрнэце мовазнаўца Вінцук Вячорка. — Павінна ж атрымацца значна большая эканомія, чым ад спынення «Раніцы» з яе невялікім накладам».

**Чаму з прычыны крызісу не зачыняюць БТ? »**

«Раніца» выходзіла з 1929 года. 82 гады, не зважаючы на войны, крызісы, змены ўлады. Раней яна называлася «Піянер Беларусі», але заўжды была беларускамоўнай.

У плане зместу «Раніца» трымалася стандартаў, якія былі прымальнымі для дзіцячай газеты мінулых дзесяцігоддзяў. Аднак вялізнай яе каштоўнасцю была мова — штотыднёвых дзіцячых выданняў па-беларуску не засталося.

Скарачэнне «Бярозкі» — адзінага беларускамоўнага часопіса для падлеткаў — таксама палавіністае: яна будзе выходзіць пад адной вокладкай з «Маладосцю», аднак захавае, немаведама навошта, пасведчанне аб рэгістрацыі. Што тое пасведчанне, калі, фактычна, выдання не будзе.

Яшчэ адна важная функцыя беларускіх выданняў — яны стымулявалі творчасць па-беларуску. Цяпер у краіне створаны ўсе ўмовы для таго, каб новае пакаленне дзяцей ўвогуле нідзе не бачыла і не чула беларускай мовы, акрамя дома і ўрокаў па прадмеце: мульцікі па-беларуску не агучваюцца, найлепшыя белмоўныя спевакі пад забаронай.

На сайце «Раніцы» анансуецца яе «другое нараджэнне» — у якасці першай анлайн-газеты для падлеткаў. Цікава, што гэты зварот рэдакцыі з'явіўся 13 кастрычніка, на наступны дзень пасля таго, як у інтэрнэце напісалі пра смерць «Раніцы».

**Алесь Сабаленка**

# Чаму беларусаў называюць «бульбашамі»

Мастак **Міхал Анемпадыстаў** прэзентаваў у Мінску новы праект — Under Ground. Яго выстава прысвечаная... карняплодам.




На густоўных высокамастацкіх здымках — бульба, буракі, тапінамбур «і іншыя афіцыйныя асобы». Мастак прапануе такія ракурсы і фрагменты, што не захочаш, а ўразішся — якая ўсё-такі прыгажосць вырастае з роднай зямлі.

У пошуках ідэальных карняплодаў Анемпадыстаў наведваў рынкі. На «Камароўцы» можна купіць рэдкія гатункі, — кажа фатограф. — Тапінамбур, пастарнак, дайкон, зялёны кітайскі гатунак рэдзькі, тую ж рэпку».

Усе карняплоды пасля фотасесіі сям'я Анемпадыставых з'ядала.

Мастак шкадуе, што ў фотакалекцыі не ўсе карняплоды, якія спажываюцца цяпер ці спажываліся продкамі. Не знятымі застаюцца цыкорый, турнэпс, цукровы бурак, корань аеру, кервель.

«Дзіўна цяпер адносіць да карняплодаў аер, а ў часы ВКЛ яго нават экспартавалі на Захад, — кажа мастак. — Бо там аер не рос: ён быў занесены да нас татарамі. Яго цукравалі або выкарыстоўвалі як спецыі».

А кервелем (маркоўнікам) яшчэ ў XIX стагоддзі ўпрыгожвалі стравы. Мы на яго забыліся, а ў Заходняй Еўропе памятаюць.

Але многія звыклыя для беларуса карняплоды, як рэпка, чорная рэдзька, хрэн, у Еўропе сустрэнеш толькі на фестывалях сярэднявечнай культуры.

Палякі дражнілі нашых задзірлівых продкаў спачатку «бацвіняжамі», а потым «бурачкамі». І бацька беларускай літаратуры Францішак Багушэвіч назву карняплода абраў сабе за літаратурны псеўданім: Мацей Бурачок. Іншыя суседзі далі нам новую мянушку — «бульбашы»...

**Юрась Ускоў, СМ**

**Under Ground можна пабачыць у Галерэі Беларускага саюза дызайнераў (Мінск, Брылеўская, 14 (уваход з двара).**

# «Да гінеколага, прабачце, са сваімі пальчаткамі»

Чытачка «НН» **падзялілася ўражаннямі** ад паходу ў паліклініку.

У рэдакцыю «Нашай Нівы» звярнулася чытачка з Заслаўя. Яна падзялілася ўражаннямі ад паходу ў мясцовую паліклініку.

Яе ўразіла тое, што ў кабінеце гінеколага ёй найперш прапанавалі зайсці ў аптэку паліклінікі, каб набыць там гумовыя пальчаткі. Раней такога ў заслаўскай паліклініцы не практыкавалі, кажа чытачка. Яна была не адзінай, каго здзівіла гэтая ініцыятыва. Акрамя яе, у аптэку накіравалі яшчэ трох наведніц.

Жанчын абурыла тое, што іх ніхто не папярэдзіў пра наватўвядзенне. Тым больш што фармальна наведванне гінеколага з'яўляецца бясплатнай паслугай.

**Ад Рэдакцыі**

На адной з прэс-канферэнцый Аляксандр Лукашэнка заявіў: «Неяк я беларусам сказаў, якія кажуць, вось на Захадзе атрымліваюць 2000 даляраў, а ў нас тады было ў эквіваленце 500 даляраў і гэтак далей. Я кажу: добра. Я згодны на такі ўзровень зарплаты — каля 2000, але за ўсё будзеце плаціць, як на Захадзе». Выпадак у заслаўскай паліклініцы сведчыць, што дзяржаўная медыцына ў Беларусі робіцца ўсё больш камерцыйнай. Беларусы ўжо звыкліся з практыкай, калі ў бальніцу з сабой трэба браць хатнюю вопратку і посуд, набываць шпрыцы для ін'екцый і г.д. І пры гэтым у Беларусі не тое, што не пачалі «плаціць, як на Захадзе», але і пра хвалёныя 500 даляраў паспелі забыцца. Вось і атрымліваецца: пачынаем плаціць, як на Захадзе, а зарабляем па-ранейшаму, як у Беларусі.

## «Яны не хочуць наводзіць парадак на дарогах»

Раю **прыехаць у Ждановічы** на рынак і ўбачыць усё на ўласныя вочы.

Прыпынкі грамадскага транспарту застаўленыя машынамі. Аўтобусы спыняюцца ў другой, а то і ў трэцяй паласе на прыпынках. На сённяшні дзень можна ўпэўнена сказаць, што ДАІшнікам гэта выгадна. Яны не хочуць наводзіць парадак на дарогах. Таму што ў любы момант яны прыехалі, «знялі вяршкі» і паехалі. Я тут працую і бачу, як усё гэта робіцца.

Трактар-эвакуатар не чапае таксістаў-нелегалаў, якія стаяць на прыпынках грамадскага транспарту. Колькі разоў тэлефанавалі ў ДАІ і на СТС, нічога не мяняецца апошнія тры гады.

Можа, трэба гаварыць, што апазіцыя прыехала ў Ждановічы і збіраецца страйкаваць, і тады пачнуць наводзіць парадак?

Яшчэ раз заклікаю прыехаць у Ждановічы. Лепш у суботу ці нядзелю.

**Мікола, Мінск**




## «Круглы стол» трэба праводзіць на плошчах

**Лукашэнка заклікаў** усіх да ўдзелу ў «круглым ці квадратным стале».

Давайце толькі правядзем «круглы стол» на плошчах. Чаму на плошчах? Ды таму, што людзей, якія хочуць узяць удзел у такім «стале», шмат і ніякае памяшканне іх не змесціць.

**Міхась Булавацкі, Магілёў**

## «Міша, афігець!»

Падаражэла **чарніла**.

Раніцай сёння пачуў у сябе на раёне (звычайны спальны раён Мінска) размову двух алкаголікаў.

Адзін кажа другому: «Міша, гэта проста афігець! Бутэлька ўжо больш за 9 тысяч каштуе».

«Не, у краме праз дарогу я бачыў па 7 300».

«Дык гэта ж 0,5 л, а 0,7 ужо больш за 9 тысяч каштуе. Жах, што робіцца ў краіне!»

«Ага! Зусім абнаглелі».

**Мікола Трайчанскі, Мінск**

## Студэнты прыбралі магілкі паўстанцаў

Яны гэта **робяць штогод**.

На выхадных мінскія студэнты прыбралі і пачысцілі магілкі ў Плябані (Маладзечанскі раён). Яны штогод гэта робяць. Дзякуем ім за гэта.

У нас у вёсцы жывуць людзі збольшага старэйшыя, і мы самі не даём рады. У нас на магілках пахаваны пяць паўстанцаў-каліноўцаў. Іх пахаванне ў свой час адкрылі гісторык Міхась Чарняўскі і Зянон Пазняк, які тады быў яшчэ археолагам.

Каб даехаць да Плябані ад Мінска, трэба маладзечанскай электрычкай ехаць да станцыі Ласі.

**Шайкоўскі, Маладзечна**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29**

# Беларуская глыбіня. Перамяненне Госпада

Піша **Павал Севярынец**.

*...І ўзвёў іх на гару высокую адных, і перамяніўся перад імі, і ззяла аблічча Ягонае, а ўбранне Ягонае стала белае, як святло.*

***Мацвея 17:2***

За колькі тыдняў да адпраўкі на «хімію» да мяне «вкантакце» пагрукаўся нейкі барадаты малады чалавек са светлымі вачыма і даслаў допіс, адна толькі назва якога прымусіла мяне паморшчыцца: «Бог, у якога я не веру». Ну вось, думаю, зноў праваслаўны атэізм.

Але пост аказаўся цытатай з Хуана Арыяса, іспанскага каталіка, і з першых словаў мне стала зразумела — я таксама не веру:

— У Бога, які любіць боль.

— У Бога, які прымушае сябе баяцца.

— У Бога-дзядулю, якім можна злоўжываць.

— У Бога, які аддае сябе ў манаполію адной царквы, нацыі, культуры ці касты.

Ужо ў пружанскай Спаса-Прэабражэнскай царкве, паглядзеўшы на маладога бацюшку, я ахнуў: барадач са светлым позіркам аказаўся айцом Сергіем, у якога мне спавядацца.

Айцец Сергій чытае Меня і Бярдзяева, цікавіцца гісторыяй і філасофіяй, мае вялізную бібліятэку, неяк служыў у блізкіх Засімавічах набажэнства па-беларуску, выхоўвае дачку Арыну, беларускамоўную верніцу і слухачку N.R.M.

Гляджу на яго і думаю: у якога Бога вераць тут, у беларускай глыбіні?

У гэтай беларускай глыбіні тэолаг, славіст, выкладчык экзэгетыкі і герменэўтыкі Віленскага ўніверсітэта Міхал Бабровскі, высланы з колішняй сталіцы па справе філаматаў, шукаў Бога ў адзінстве хрысціянаў — спярша як уніяцкі, потым як праваслаўны святар. І няхай Баброўскага называлі то сваім, то чужым і ў заходняй, і ва ўсходняй царкве — ён усім сваім жыццём сцвярджаў веру ў Бога, вышэйшага за міжканфесійныя звягі.

У гэтых самых Пружанах у сярэдзіне XIX ст. каталікі, не маючы грошай завершыць вялікі касцёл на 1000 чалавек, перадалі камяніцу праваслаўным, а тыя дабудавалі царкву Раства Хрыстова (па-каталіцку, алтаром на захад), і заадно непадалёк — касцёл, што стаіць дагэтуль: пэўна ж, людзі верылі ў Бога, у Якога не каменнае сэрца, а жывое.

Казімір Свёнтак, першы беларускі кардынал з XVIII ст., сваё служэнне пачынаў у тым самым пружанскім касцёле, быў арыштаваны і засуджаны на смерць, прайшоў сталінскі ГУЛАГ і ўсё-такі ўбачыў бел-чырвона-белы сцяг Хрыста па-над урадавымі будынкамі — верыў у Бога, Які не дае выпрабавання звыш сілаў.

Айцец Канстанцін Пілінкевіч, настаяцель Пружанскай Прачысценскай царквы, што за польскім часам абараняў правы беларусаў і, выступаючы перад тагачаснымі дзяржаўнымі дзеячамі, казаў: «Наша думка аб тым, каб не глядзелі на нас, праваслаўных, коса, каб не лічылі нас за грамадзянаў ніжэйшага гатунку» (за што і быў адхілены ад пасады) — верыў у Бога, Які даў беларусам зямлю, мову і права людзьмі звацца.

Тутэйшыя пратэстанты, чые бацькі друкавалі ў Белавежскай пушчы Біблії для ўсяго былога Савецкага Саюза, пратэстанты, што прапаведуюць Евангелле на гарадскім дне і толькі цярпліва ўсміхаюцца, калі чуюць грэблівае «сектанты», сярод якіх і патомныя баптысты-антысаветчыкі, і місіянер-пастар Тайс — вераць у Бога, Які не пакіне чалавека ані ў Афрыцы, ані ў Беларусі.

А пружанец Васіль Сёмуха, адзін з найлепшых беларускіх перакладчыкаў, уклаў у свой пераклад Біблії столькі глыбокае беларускае прыгажосці і ласкі, столькі моўнага харства, што нават нягледзячы на багаслоўскія недахопы, і вернікі, і святары згаджаюцца: Дзядзька Васіль верыць у Бога.

Ісус перамяніўся перад вучнямі на гары.

Пружанская царква Перамянення, куды мне дазволена выязджаць у нядзелі, таксама стаіць на горцы, на праваслаўных могілках. Насупраць, праз дарогу — капліца каталіцкая, і магілкі адпаведныя. Вуліца такі называецца — Горка.

Бацюшка з глыбокім зычным голасам апякуецца «хімікамі» і часцяком заседжваецца ў дзяжурцы з міліцыянтамі. Уся царква любуецца, як ён прычашчае дзяцей.

У беларускай глыбіні, пакутлівай і трапяткой, скрозь стагоддзі нараджаецца Той, у каго верылі Сапега і Жыгімонт Аўгуст, Баброўскі і Свёнтак, вераць Тайс і Сёмуха, у каго верыш ты — Адзіны і Нязменны Бог.



**Павал Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

**У якога Бога вераць у беларускай глыбіні?** »

# Маштаб асобы

**29 верасня споўнілася 120 гадоў ад нараджэння Аркадзя Смоліча. Чалавека, без якога магло б не быць беларускай Незалежнасці. Пра «белыя плямы» яго біяграфіі піша Анатоль Сідарэвіч.**

У біяграфіі кожнага дзеяча маюцца «белыя плямы». Вядома, што першае выданне Смолічавай «Геаграфіі Беларусі» ўбачыла свет ў 1919 г. у Вільні. У гэтым горадзе Аркадзь Смоліч жыў і працаваў да 1922 г. Што змусіла яго пераехаць у БССР?

Яго прывеціў у Мінску сам старшыня Інбелкульта Усевалад Ігнатоўскі. Разам з Ігнатоўскім, Некрашэвічам і Ластоўскім ён будзе складаць статут Беларускай акадэміі навук, выбіраць месца для гмаху Акадэміі. Ігнатоўскі стане прэзідэнтам АН, Некрашэвіч — віцэ-прэзідэнтам, Ластоўскі — сакратаром, а Смоліч застанецца «шараговым» прафесарам, загадчыкам кафедры. Не трапіць у склад Акадэміі і аўтар выдатнай працы «Западно-руссизм» Аляксандр Цвікевіч. Чаму? Толькі таму, што да Цвікевіча недружалюбна ставіўся Ігнатоўскі, а ён, Смоліч, з Цвікевічам сябраваў?

Перад біёграфам А. Смоліча паўстаюць і іншыя пытанні.

### Адмовіўся ад «выбітых» паказанняў

Мой дзядзька Пятрук, якому «пашчасціла» сядзець за кратамі і за Польшчаю (Картуз-Бяроза), і за немцамі (целяханская СД), і за саветамі (Калыма), казаў мне: СД адрознівалася ад НКВД тым, што першыя выбівалі з падследнага праўду, а другія катаваннямі змушалі падпісаць няпраўду.

Такое ж адрозненне было паміж царскай ахранкай і НКВД. Уяўляю, які шок перажывалі былыя «кліенты» ахранкі, калі траплялі ў лапы ГПУ — Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення, якое папярэднічала НКВД. Шок перажыў і А. Смоліч, якога ў справе міфічнага «Саюза вызвалення Беларусі» арыштавалі адным з першых. Праўдападобна, што шакаваны прафесар БДУ, загадчык кафедры геаграфіі ў Акадэміі навук у першы момант сказаў тое, што патрабавалася ГПУ.



**«Геаграфія Беларусі» вытрымала пяць перавыданняў. Але яна была забароненая ў СССР, Польшчы і Латвіі.**

Але Смоліч хутка зразумеў, у якую пастку яго заганяюць, і ва ўласнаручных паказаннях адмовіўся ад сваіх «прызнанняў». А бальшавікі ж хацелі зрабіць яго «кіраўніком» імі ж прыдуманага СВБ, бо ранейшыя кандыдаты на «пасаду» адпалі: Янка Купала паспрабаваў учыніць харакіры, а Усевалад Ігнатоўскі застрэліўся.

Віны не прызнала большасць арыштаваных беларускіх дзеячаў, але менавіта адмова Купалы, Ігнатоўскага і Смоліча ад супрацоўніцтва з ГПУ не далі бальшавікам магчымасці наладзіць паказальны публічны працэс у справе СВБ.

**Віна Аркадзя Смоліча – тэлеграма кайзеру. »**

### Галоўны на расійскай тэрыторыі

Ачольнікам «падпольнай арганізацыі» Смоліча спрабавалі зрабіць не на пустым месцы. У 1915 г., калі лінія фронту разрэзала Беларусь на дзве часткі — паднямецкую і падрасійскую, — ён, магчыма, кіраваў Беларускай сацыялістычнай грамадой на падрасійскай тэрыторыі. Задоўга да прыходу немцаў было вырашана, што сябры Цэнтральнага Камітэта БСГ, браты Іван і Антон Луцкевічы, а таксама Цётка застануцца ў Вільні. Хто ж застаўся галоўным на падрасійскай тэрыторыі? Ні Вацлаў Іваноўскі, ні Аляксандр Уласаў у 1917 г., калі партыя выйшла з падполля, ніяк сябе не праявілі. Бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што фактычным правадыром партыі стаў Аркадзь Смоліч.

Ужо 25 сакавіка 1917 г. у Мінску з яго ініцыятывы адбылася канферэнцыя арганізацый БСГ. Яна выбрала Цэнтральнае Бюро, у склад якога ўвайшлі Аркадзь Смоліч, Іван Краскоўскі, Павел Аляксюк (Мінск), Браніслаў Тарашкевіч (Петраград) і Аляксандр Бурбіс (Масква). Краскоўскі неў-забаве з'едзе ва Украіну, Аляксюк адыдзе ад партыі, Тарашкевіч засяродзіцца на «Беларускай граматыцы для школ», і застануцца толькі два актыўныя сябры Бюро: Смоліч ды Бурбіс. Ім на дапамогу прыйдзе амбітны Зміцер Жылуновіч, будучы кіраўнік БССР, які пацягне партыйны воз у Піцеры. Праўда, Стары Піліп (падпольная мянушка Бурбіса) пачне канфліктаваць з малодшымі таварышамі, і скліканне наступнай партыйнай канферэнцыі цалкам ляжа на плечы Смоліча і Жылуновіча.

На Петраградскай канферэнцыі ў чэрвені 1917-га было прынятае рашэнне адхіліць ад кіраўніцтва Беларускім нацыянальным камітэтам Рамана Скірмунта. Ён быў аўтарытэтны і добра вядомы ў Расіі палітык. Але ці можна было б правесці Усебеларускі з'езд у снежні 1917-га, калі б на чале Рады стаяў пан Скірмунт?

### Рыхтаваў глебу для незалежнасці

Ідэя Усебеларускага з'езда агучваецца неўзабаве пасля бальшавіцкага перавароту. А перад самым пераваротам адбываецца III партыйны з'езд, які выбраў старшынёй ЦК БСГ Язэпа Дылу, а Смоліча — яго намеснікам.

На Усебеларускім з'ездзе Смоліч, як і Дыла, непрыкметны. Іх праца — кулуарная. Трэба было дасягнуць агульнай згоды па кожным пункце пастановы З'езда аб самавызначэнні Беларусі і часовай краёвай уладзе. І згода была дасягнутая.

Пасля З'езда Смоліч зноў становіцца на чале партыі, бо Дыла стаў камуністам. У тым, што 9 сакавіка была абвешчаная БНР, немалая заслуга Смоліча, які кіраваў фракцыяй БСГ у Радзе Усебеларускага з'езда, а ад 19 сакавіка — у Радзе БНР. І калі 22 сакавіка 1918 г. у Мінск прыехала дэлегацыя Беларускай Рады ў Вільні, Івану і Антону Луцкевічам не давялося доўга пераконваць таварышаў па партыі ў неабходнасці абвяшчэння незалежнасці БНР. 23 сакавіка фракцыя БСГ прыме рашэнне аб падтрымцы прапановы Луцкевічаў. Увечары 24-га Аркадзь Смоліч выступіць на пасяджэнні Рады з дакладам, у якім абгрунтуе, чаму Беларусі патрэбна незалежнасць. А ўранку 25-га фракцыя БСГ пад яго кіраўніцтвам дружна прагаласуе за абвяшчэнне Беларусі незалежнаю дзяржаваю.



**А. Смоліч у год абвяшчэння БНР.**

Макар Краўцоў пісаў, што Акт 25 Сакавіка быў лебядзінаю песняю БСГ. 1 мая 1918-га БСГ распадзецца. Віна Аркадзя Смоліча, мажліва, у тым, што ён добра не «страсянуў» Івана Серада, Язэпа Варонку, Язэпа Лёсіка і Антона Аўсяніка за іх неабачлівую тэлеграму кайзеру Вільгельму II, але тады нават бальшавікі не ставілі сваіх таварышаў «да сценкі».

**Аркадзь Смоліч**

(17.09.1891—17.06.1938). Нар. у вёсцы Бацэвічы (цяпер Клічаўскі раён). У 1905 скончыў Мінскую духоўную семінарыю. У 1916 — Нова-Александрыйскі інстытут сельскай гаспадаркі (цяпер г. Пулавы, Польшча). З 1910 быў членам БСГ. Адзін з ініцыятараў абвяшчэння БНР. У 1919 выдаў падручнік «Геаграфія Беларусі», які вытрымаў 5 перавыданняў. Жыў у Вільні. Вярнуўся ў БССР у 1922. Працаваў у Наркамаце земляробства, БДУ, Інбелкульце. Арыштаваны ў 1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Сасланы на 5 гадоў у Пермскую вобласць. У 1935 вызвалены. У 1937 прысуджаны да расстрэлу.

### Прафесар без вышэйшай адукацыі

Прадвеснікамі беларускага руху на пачатку XIX ст. былі ўніяцкія паповічы — прафесары Віленскага ўніверсітэта Ігнат Анацэвіч, Міхал Баброўскі ды Ігнат Даніловіч. На пачатку XX стагоддзя ў беларускі рух прыйшлі праваслаўныя паповічы Яўген Хлябцэвіч, Усевалад Ігнатоўскі, Пётра Крачэўскі ды іншыя.

Сын дыякана, хрышчоны сын аднаго бацюшкі і пляменнік другога, Аркадзь Смоліч таксама не пайшоў, як казалі тады, па «духовной части». Паступіўшы пасля Мінскай духоўнай семінарыі ў Нова-Александрыйскі сельгас-інстытут у Пулавах (Польшча), студэнт Смоліч у 1910 г. быў з яго выключаны, бо як сацыяліст не мог не ўзяць удзел у студэнцкіх хваляваннях. Магчымасць працягнуць вучобу з'явілася ў 1913 г., калі дом Раманавых адзначаў 300-годдзе свайго панавання, і з гэтае нагоды многім палітычным была абвешчаная амністыя.

Тэарэтычны курс інстытута Аркадзь Смоліч завяршыў у 1916 годзе. Але абараніць дыпломную ўсё не выпадала: то адна гістарычная па-дзея, то другая... І вось у 1924 г. экзаменацыйная камісія інстытута атрымала працу студэнта. Але якога! Гэты студэнт за восем год паспеў тройчы выдаць сваю «Геаграфію Беларусі», напісаў даследаванне «Эканамічнае становішча Беларусі перад вайной і рэвалюцыяй»; на падыходзе быў «Кароткі курс геаграфіі Беларусі»... («Кароткі курс» не менш ёмісты, чым трэцяе выданне «Геаграфіі Беларусі» — кнігі нагэтулькі беларускай, што яе ў рэшце рэшт забаранілі ў трох краінах: СССР, Польшчы і Латвіі.)

Дыплом Смоліч атрымаў за працу «Арганізацыя сельскай гаспадаркі ў Цэнтральнай Беларусі», а ў наступным годзе за працу «Тыпы геаграфічных краявідаў Беларусі» ён атрымаў вучонае званне дацэнта і не менш ганаровы тытул заснавальніка беларускага ландшафтазнаўства.

### Ад «Сахі» да «Плуга»

Калі пачынаеш выпісваць у слупок загалоўкі артыкулаў і кніг, якія напісаў або рэдагаваў ў 1920-я правадзейны сябар Інбелкульта А. Смоліч, нельга не задаць пытанне: дзе ён браў на ўсё гэта час? Відаць, працаголіку Смолічу было дадзена моцнае здароўе.

Немалая яго заслуга і ў тым, што быў наладжаны выпуск папулярных часопісаў «Наш Край» і «Плуг». Апошні быў спараджэннем новай эканамічнай палітыкі ў Беларусі і інструментам яе правядзення.

Назва «Плуг» прымушае згадаць часопіс «Саха», які ў дарэвалюцыйны час выдаваў Аляксандр Уласаў (дарэчы, Уласаў быў той чалавек, які прывёў юнага Аркадзя ў Грамаду). Задача перад «Плугам» стаяла тая ж: несці беларускім сялянам сельскагаспадарчыя веды на іх роднай мове. Часопіс выходзіў ад студзеня 1925-га да чэрвеня 1929-га. У ліпені яму на змену прыйшоў часопіс «Шляхі калектывізацыі». А праз год адказны рэдактар «Плуга» Прышчэпаў і сябар рэдкалегіі, адзін з ідэолагаў нэпаўскай аграрнай палітыкі ў БССР Смоліч будуць арыштаваныя.

...Ледзь не перад самым арыштам у Мінск прыйшла вестка, што прафесару Аркадзю Смолічу прысуджаны Малы залаты медаль Расійскага дзяржаўнага геаграфічнага таварыства.

Ён быў у зеніце славы, у росквіце сіл і поўны творчых планаў. Яго падбілі ў палёце.



**Смоліч выбіраў месца для будынка Акадэміі навук.**

## ФУТБОЛ

### 29 тур

**23 кастрычніка:** БАТЭ — «Тарпеда-БелАЗ», «Віцебск» — «Мінск», «Нёман» — «Гомель», «Дняпро» — «Белшына», «Дынама» (Брэст) — «Нафтан», «Дынама» (Мінск) — «Шахцёр».

## ІМПРЭЗЫ

### ДА!БРО!

**23 кастрычніка а 16-й у «Мулен Руж» (вул. Кальварыйская, 1)** — беларускі рэгі-фэст. Бяруць удзел «Адыс Абеба», Botanic Project, Bez.not, «Расцення мудрасці».

## КАНЦЭРТЫ

### Харавая музыка канца XX — пачатку XXI стагоддзяў

**20 кастрычніка ў Вялікай канцэртнай зале філармоніі а 19-й** — канцэрт «Харавая музыка канца XX — пачатку XXI стагоддзяў».

### Народны аркестр імя Жыновіча

**21 кастрычніка а 19-й у Вялікай канцэртнай зале філармоніі** выступае нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя Жыновіча.

### Рок па вакацыях

**21 кастрычніка а 19-й у клубе Re:public (вул. Прытыцкага, 62)** — канцэрт «Рок па вакацыях». Бяруць удзел: Drum ecstasy, Akute, «Касіяпея», No comment band, Yellow brick road, «Пятля прыстрасці», ZM 99, Kull orchestra.

### Жывы Тузін

**23 кастрычніка а 18-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — «Жывы Тузін/Тузін Unplugged».

### Рокаш

**25 кастрычніка а 19-й у «Графіці»** — «Рокаш».

### Андрэй Барыла

**26 кастрычніка ў «Графіці» ў 21.45** — квартэт Андрэя Барылы — Barilazz і Джаз-Хэлоўін.

## ВЫСТАВЫ

### Незавершаная вандроўка

**У галерэі «Панарама» Нацыянальнай бібліятэкі** да 20 кастрычніка працуе выстава акварэлі Міхаіла Міронава «Незавершаная вандроўка», прысвечаная яго памяці. Творы Міхаіла Міронава адзначаны яркай індывідуальнай стылістыкай, напоўнены светлымі ўражаннямі, перадаюць суладдзе настрою мастака і прыроды.

### Іншы погляд 3D / Ecce in alium 3D

**Да 21 кастрычніка ў бібліятэцы імя Францішка Багушэвіча** працуе фотавыстава «Іншы погляд 3D / Ecce in alium 3D». На кожным фотаздымку пры пэўным метадзе прагляду бачныя прастора і глыбіня. Свет фатаграфіі не заўсёды чорна-белая плоскасць. Стэрэапрастора — гэта заўсёды свет сустрэчы з новымі пачуццямі і вобразамі…

### Радавод

**У Тэатры беларускай драматургіі да 30 кастрычніка** працуе фотавыстава «Радавод». Сюжэты выставы — імітацыя сярэднявечных карцін з выявамі рыцараў і гараджан Вялікага Княства Літоўскага 14-17 стст. Частка твораў — здымкі жанчын і дзяцей у старадаўніх народных строях з Веткаўскага і Гомельскага музеяў.

### Лемарыс

**У галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі** працуе выстава, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння Станіслава Лема. У межах праекта пройдзе кніжная выстава: будуць прадстаўлены каля 600 пісьмовых дакументаў, што тычацца жыцця і творчасці вялікага фантаста. Будзе выстаўлена дакументальна-інфармацыйная калекцыя вядомага ў нашай краіне лемолага, кандыдата тэхнічных навук Віктара Язневіча.

### Беларусь у тварах

**Да 27 кастрычніка ў Народным фотаклубе (вул. Казлова, 2)** працуе выстава «Беларусь у тварах» Джона Кунстадтэра. «Аб'ектыў спадара Джона даследуе наша жыццё менавіта з той дыстанцыі, якая дазваляе ўбачыць схаванае ад «фотавачэй» калег-еўрапейцаў. Уладзімір Арлоў».

### Фота Зоф'і Хамянтоўскай

**У Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12)** працуе выстава «Зоф'я Хамянтоўская «Паміж кадраў. Фатаграфіі з 1925—1945 гадоў». Выстава наватарскім спосабам прэзентуе творчасць фатографа Зоф'і Хамянтоўскай, якая нарадзілася і звязана з Палессем. Амаль увесь матэрыял прадстаўлены ўпершыню.

### Палессе

**Да 29 кастрычніка ў мастацкай галерэі Л.Шчамялёва (пр. Ракасоўскага, 49)** працуе выстава «Фатаграфічная экспедыцыя —3. Палессе». Выстава складаецца з аўтарскіх міні-выставаў, у каторых становяцца бачнымі жанравыя і стылістычныя адрозненні аўтараў твораў.

### Паданні даўніны глыбокай

**Да 20 кастрычніка ў выставачнай зале «Берагіня» галоўнага корпуса БНТУ (пр.Незалежнасці, 65)** працуе выстава дэкаратыўна-выяўленчага мастацтва (кераміка, выцінанка) «Паданні даўніны глыбокай». На выставе экспануюцца творы Валерыя Марчука, Марыны Марчук, Васілія Логвіна.




## «Вялікая васьмёрка» муай-тай у Мінску


22 кастрычніка ў «Мінску» пройдзе найбуйнейшы сусветны турнір па Муай-тай Grand Prix «Вялікая васьмёрка». Спаборніцтвы будуць адзначацца ўсемагчымыя піратэхнічныя і лазерныя спецэфекты. У турніры возьмуць удзел беларускія чэмпіёны: Кулебін, Коцур, Варакса, а таксама атлеты з Вялікабрытаніі, Турцыі, Расіі.

## ТЭАТРЫ

### 19 кастрычніка

**Лялек** — «Дзень народзінаў ката Леапольда»
**Оперы і балета** — «Аіда»
**Беларускай драматургіі** — «Вандроўнікі ў Нью-Ёрку»

### 20 кастрычніка

**Лялек** — «Дзень народзінаў ката Леапольда»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»

### 21 кастрычніка

**Лялек** — «Дзень народзінаў ката Леапольда»
**Оперы і балета** — «Кармэн»
**Беларускай драматургіі** — «Хто пакахае мадам?»

### 22 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Лялек** — «Дзень народзінаў ката Леапольда»
**Оперы і балета** — «Рускія сезоны XXI стагоддзя»
**Беларускай драматургіі** — «Жан і Беатрыса»

### 23 кастрычніка

**Лялек** — «Дзень народзінаў ката Леапольда»
**Оперы і балета** — «Тры парсючкі»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

### 24 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Беларускай драматургіі** — «Спектакль №7»

### 25 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Снягурка»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

### 26 кастрычніка»

**Купалаўскі** — «Беларусь у фантастычных апавяданнях»
**Юнага гледача** — «Апошняя дуэль»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 27 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»
**Оперы і балета** — «Алека. Балеро»

### 28 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Пан міністр»
**Лялек** — «Гісторыя аднаго горада»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

### 29 кастрычніка

**Лялек** — «Марозка»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Оперы і балета** — «Вяселле Фігара»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### 30 кастрычніка

**Лялек** — «Марозка»
**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Оперы і балета** — «Травіята»
Беларускай драматургіі — «Што баліць»

### Польскі тэатр

**23 кастрычніка ў Палацы спорту а 19-й** — «Сляпыя» ў выкананні тэатра «Кто».
**25—26 кастрычніка ў музычным тэатры а 19-й** — «У нас усё добра» ў выкананні тэатра «ТР Варшава».
**27 кастрычніка ў Палацы культуры прафсаюзаў а 19-й** — «Браты Карамазавы» ў выкананні тэатра Provisorium.
**28 кастрычніка тамсама а 19-й** — «Голад Кнута Гамсуна» ў выкананні тэатра Invitro.

## КІНО

### Стужка да эпідэміі грыпа

**Заражэнне (Contagion)**
ЗША — Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, 2011, каляровы, 106 хв.
**Рэжысёр:** Стывен Содэрберг
**Ролі выконваюць:** Гвінэт Пэлтрау, Мэт Дэйман, Кейт Уінслет, Джуд Лоу, Лоўрэнс Фішберн
**Жанр:** Эпідэмічны трылер, аўтарскі фільм катастрофаў
**Адзнака:** 5 (з 10)

Вірус, які імкліва распаўсюджваецца, аб'ядноўвае людзей у смяротнае сеціва. Лекары з Цэнтра па кантролі за хваробамі спрабуюць знайсці вакцыну. Але становішча пагаршаецца.

Хваробы і эпідэміі неаднойчы натхнялі кінематаграфістаў на кінакашмары. Стывэн Содэрберг вырашыў падтрымаць эстафету. Ягоная стужка — нуднаватая сацыяльная драма з вялай крытыкай капіталізму.

Прыгажуню Гвінэт Пэлтрау Содэрберг забівае ў першыя дзесяць хвілінаў — і на працягу дзвюх гадзінаў упарта корпаецца ў ейным мінулым.

Забаронены ў Беларусі Джуд Лоу — самы жывы ў фільме — грае несімпатычнага блогера-плеткара. Содэрберг выкрывае змовы, гегемонію Злучаных Штатаў і тайныя шляхі эпідэміі. Выглядае непераканаўча, але ягоныя кашаль прымусіць насцярожыцца.

Андрэй Расінскі



# Хто такія хіпстары?



**Новая субкультура** захоплівае ўсё больш і больш маладых беларусаў.

Каб разабрацца ў гэтай з'яве, мы звярнуліся да прадстаўніка пакалення хіпстараў.

**«Наша Ніва»: Хто такія хіпстары?**

**Іван Воранаў**: Насамрэч хіпстараў не існуе, а ўся гэтая шуміха — проста яшчэ адзін захад па выманні грошай з бацькоўскіх кішэняў. Калі тлумачыць, то хіпстар — гэта спажывец нейкай моды, якая нібыта «не для ўсіх». Мода на духоўныя багацці, на тонкі густ і непераадольную цягу да ўсяго некамерцыйнага, рэдкага.



**«НН»: Чым хіпстарства адрознівае цца ад іншых моладзевых субкультур?**

**ІВ**: У аснове сваёй — нічым. Як і любая цацка для моладзі, хіпстарства мае асноўнай мэтай быць не як усе, не быць у мэйнстрыме. Адрозненне хіба ў тым, што яно вымагае быць разумным і «незалежным» ці хаця б падавацца такім. Гэта значыць, што хіпстару трэба прачытаць хаця б адну кніжку якога-небудзь контркультурнага аўтара, паглядзець хаця б адзін артхаўзны фільм, паслухаць хаця б адзін гурт, пра які ведае менш за сотню чалавек. Але можна абмежавацца проста выглядам духоўна багатага чалавека.

**«НН»: Ці можна сцвярджаць, што хіпстары — метрасэксуалы?**

**ІВ**: На маю думку, метрасэксуалам можна называць любога маладога чалавека, якому яшчэ не пашанцавала ажаніцца. Каб быць модным сярод хіпстараў, зусім не абавязкова аддаваць шмат часу сваёй знешнасці. Для іх цалкам натуральна мець крыху дзіўнаваты знешні выгляд, старыя (зусім добра, калі дзедавы ці бабіны) рэчы, растрапаныя валасы, бараду, нейкія іншыя рэтра-элементы. Робіцца ўсё гэта, каб падчапіць якую-небудзь дзяўчыну.



**«НН»: Як выглядае тыповы хіпстар?**

**ІВ**: Хутчэй за ўсё гэта будзе кашуля ў клетку, вузкія нагавіцы, цёмныя акуляры з 80-х (магчыма, без дыёптрый ці нават без шкла), кардыган, паліто, капялюш, самыя розныя цішоткі, абутак накшталт топ-сайдараў ці сліпонаў (сярэдняе паміж паміж кедамі і туфлямі). Хіпстар павінен любіць рэтрарэчы з 80-90-х: палароіды, старыя бацькоўскія рэчы, зеніты, старыя фота. Узрост — старэйшая школа, універ і крыху пасля. Мабыць, студэнтаў асабліва шмат. Дзяўчат, дарэчы, болей. Адукацыя — гуманітарый. У ідэале — філасофія, журналістыка, псіхалогія, музыка, фатограф.

**«НН»: Чаму шмат у каго негатыўнае стаўленне да хіпстараў?**

**ІВ**: Беларускае грамадства так ставіцца да ўсяго новага. На захадзе што-небудзь з'явіцца, разаўецца і ўжо пачне знікаць, а ў нас пра гэта толькі пачулі. Беларусь захрасла недзе ў 90-х і нікуды не спяшаецца.

Асабіста я да гэтай культуры стаўлюся станоўча — вядома ж, усё робіцца дзеля грошай, але ж мода прымусіла шмат каго пачаць чытаць, глядзець кіно не з Галівуда, цікавіцца чымсьці акрамя бухла і цыгарэтаў, знайсці незвычайнае хобі. Гэта добра.

**«НН»: Дзе звычайна можна сустрэць беларускіх хіпстараў?**

**ІВ**: У «Вконтакте» і Твітары, дзе яны мераюцца духоўным багаццем праз незвычайныя малюнкі, рэдкія запісы і статусы з «глыбокім» сэнсам. Ну яшчэ ў месцах, дзе робяць каву на вынас. Але хіпстарамі сябе не называюць. Калі хто-небудзь кажа вам, што ён хіпстар, то, хутчэй за ўсё, ён злосны троль, які здзекуецца з прынцыпаў і самой культуры. Ніхто пра гэта не кажа, бо трэба ж быць не як усе.

**«НН»: Ці стасуецца «хіпстар» з беларускай мовай?**

**ІВ**: Беларуская мова стасуецца з усім! Усе мовы свету падыходзяць да ўсяго, у тым ліку і беларуская.

**Аксана Рудовіч**

**Іван пра сябе**

22 гады, вучуся ў БДУ. Працую ў IT сферы. Гуманітарый. Ад бацькі засталося шмат вінілаў, таму з дзяцінства падсеў на музыку. Люблю чытаць, люблю панк першай хвалі і постпанк. Так паступова капаў-капаў, потым мяне пазнаёмілі з нечым накшталт індзі.

**Топ-10 «хіпстарскіх» фільмаў**

**1.** Вечнае ззянне чыстага розуму
**2.** Салдаты няўдачы
**3.** Factory Girl
**4.** Пыл
**5.** Гэта Англія!
**6.** Рэквіем па мары
**7.** 99 франкаў
**8.** На іголцы
**9.** Амерыканская гісторыя X
**10.** Sin Nombre

**Топ-10 «хіпстарскіх» аўтараў**

**1.** Чак Паланік
**2.** Віктар Пялевін
**3.** Фрыдрых Бегбедэр
**4.** Уільям Бероўз
**5.** Карлас Кастанеда
**6.** Тайша Абеляр
**7.** Ру Муракамі
**8.** Кен Кізі
**9.** Оскар Уайлд
**10.** Жорыс Карл Гюісманс



**Каб быць хіпстарам, можна абмежавацца проста выглядам духоўна багатага чалавека.** »

# Камп'ютарныя гульні пачалі размаўляць па-беларуску

**Відэагульні на беларускай мове** — вялікая рэдкасць.

Распрацоўшчыку няма ніякага сэнсу рабіць пераклад для невялічкай аўдыторыі, бо гэта наўрад ці акупіцца. Таму ўсе беларускамоўныя версіі гульняў зроблены аматарамі. І народным майстрам сапраўды ёсць чым ганарыцца.

Першай ва ўсіх сэнсах сапраўднай беларускай відэагульнёй стаў **«Менск»**, які выйшаў напрыканцы мінулага стагоддзя. Галоўны герой гульні — малады рокер Лявон Вольскі. Жыў бы ён доўга і шчасліва, калі б яму не перашкаджалі гопнікі, сабакі, АМАПаўцы — і ўвогуле ўсе, хто толькі можа. Задача Лявона — знішчыць клуб «Рэактар», крыніцу ўсяго зла. Апошні бос у «Менску» — Бацька, якога і трэба перамагчы, каб паспяхова завяршыць гульню.

«Менск» стаў першай і адзінай шырокавядомай гульнёй, якая адразу выйшла на беларускай мове. Усе астатнія праекты на матчынай мове — гэта пераклады самай рознай якасці.

Шмат беларускамоўных відэагульняў з'явілася і, што не менш важна, захавалася дзякуючы рэсурсу belsoft.tut.by ад аўтара перакладніка «Белазар». На жаль, шмат версій зроблена паўаўтаматычным перакладам з расейскіх версій.

Але ж не ўсё так дрэнна. Напрыклад, хорар **Silent Hill 3** перакладзены з арыгінальнай англійскай версіі гульні. Акрамя ўжо пазначаных праектаў, сустракаюцца беларускія версіі такіх легендаў сярод гульняў, як стратэгіі **Civilization 4** і **Heroes of Might and Magic 5**, стралялкі **Counter-Strike**, **FarCry** і **Painkiller**, гоначкі **Need for Speed: Hot Pursuit 2** і аркада **World of Goo**.

Можна знайсці шмат аматарскіх перакладаў відэагульняў на беларускую мову. Так, прыкладна ў 2004 годзе быў зроблены беларускі варыянт **Thief 3: Deadly Shadows**. Перакладалася гульня з англійскай мовы. Стваральнікі нават перапрацавалі арыгінальныя шрыфты. Зрэшты, раца так і не была скончана, а пераклад не выйшаў за межы сяброў распрацоўшчыкаў.

Беларускамоўных гульняў, як бачна, даволі мала. Але добра, што яны ўвогуле ёсць. Бо ў бліжэйшы час наўрад ці хто-небудзь будзе прафесійна займацца перакладамі відэагульняў на беларускую мову.

У аматараў часта нават адсутнічаюць патрэбныя слоўнікі. Канкрэтнага лексікона па відэагульнях увогуле няма. Яшчэ адзін момант: аматары-перакладчыкі — гэта моладзь, якой часта не хапае адукаванасці. Ну і нярэдка здараецца так, што спачатку ва ўсіх загараюцца вочы, а потым гэты энтузіязм некуды знікае. І тады, як нескладана здагадацца, ніякага перакладу не атрымліваецца.




**Максім Паршута**

## Прыватныя абвесткі

### ВІТАННІ

**Віншуем** Сяргея і Марыю Гудзіліных з нараджэннем дачушкі Сафіі. Сябры

**Віншуем** Ганну і Паўлюка Печанко з шлюбам. У шчаслівую жыццёвую дарогу! Сябры

### ВЫШЫЎКА

**Майстар** народнай творчасці Галіна Рудніцкая запрашае на заняткі ў студыю беларускай народнай вышыўкі пры Мінскім абласным цэнтры народнай творчасці. У праграме — традыцыйныя тэхнікі вышыўкі: аздабляльныя швы, набор (процяг), роспіс, лікавая гладзь, крыжык, мярэжкі, вышыўка па сетцы (сакаленне), краявыя швы, злучальныя швы, зборкі (маршчэнне). Заняткі для іншагародніх 2 разы на месяц па суботах з лістапада па сакавік. Т.: (029) 171-13-90, zoraczka@tut.by.

### СЯБРОЎСКІЯ ПАДАРОЖЖЫ

**Запрашаем** у сяброўскае падарожжа па маршруце Мінск—Прага—Дрэздэн—Мінск 26—30 кастрычніка. Тэлефоны: (029) 622-57-20, (029) 636-50-76.

### АБІТУРЫЕНТАМ

**Дапамога** абітурыентам, школьнікам іншых класаў. Фізіка. Матэматыка. Т.: (029) 560-31-89.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!



Археалагічныя раскопкі праходзяць у Навагрудскім замку. Гэта падрыхтоўчыя працы да пачатку аднаўлення замка, дзе адбывалася каранацыя Міндоўга. Грошы на рэканструкцыю збіралі пры дапамозе латарэі «Скарбніца».



Японскія і беларускія клоўны наведалі пацыентаў 2-й дзіцячай бальніцы Мінска. Малым спадабаліся нумары блазнаў.



Ва ўсім свеце працягваюць ушаноўваць памяць стваральніка Apple Стыва Джобса. Так выглядаюць многія камп'ютарныя крамы Мінска. А ў пятніцу ў кавярні Coffe-On адбыўся канцэрт памяці. Яблыку не было дзе ўпасці на гэтым мерапрыемстве.



На тым тыдні ў Мінску прайшла прэзентацыя жаночага глянцавага часопіса Pink. На імпрэзе ў начным клубе прысутнічаў увесь беларускі гламур. Бессэнсоўны і бязлітасны.

## Анекдоты

* * *

Навіны па БТ:

У Англіі — крызіс. У Грэцыі — дэфолт. У Расіі — абвал курса рубля. У Беларусі — воблачна, месцамі пройдуць дажджы.

* * *

КДБ у шоку ад праекта закона пра органы дзяржбяспекі і просіць абароны ад гэтых дэпутатаў.

* * *

Нацыянальны банк пачаў выпуск даляраў з выявай Лукашэнкі. Яго курс да беларускага рубля стабільны і супадае з курсам Нацбанка.

* * *

Новы рэкорд — у кнігу рэкордаў Гінэса! Падчас чарговага чатырохгадзіннага маналога-інтэрв'ю расійскім тэлеканалам Лукашэнка вырабіў самую доўгую ў свеце локшыну.

* * *

2015 год. Сын пытаецца:

– Тата, што гэта за будынак?

– Гэта Нацыянальная бібліятэка, сынку.

– Старая?

– Дарэвалюцыйная яшчэ.

* * *

Селянін прыйшоў у раённы цэнтр. Ідзе вуліцаю і чытае шыльды: Райвыканкам, Райміліцыя, Рай...

Ён скінуў шапку і перахрысціўся:

– Нарэшце, вырваўся з пекла.

* * *

Надвор'е шэпча: «Купі паліто!»

Даходы шэпчуць: «І так цёпла!»

## «НН» сто гадоў з вамі

**Мястэчка Холмеч, Рэчыцкага павету.** У нашым кутку патроху прышчэпліваюцца ад людзей, што варочаюцца дамоў з вайсковай службы, чужыя звычаі. А ў некаторых вёсках Рэчыцкага павету выводзіцца нават пекная наша беларуская песня, і яе месца займаюць усякія фабрычныя, паміж каторых дзеўкі пяюць надта бясстыдную «дубінушку».

**«НН». №41. 1911.**

**«Белорусская газета» надрукавала інтэрв'ю з Аляксандрам Фядутам пад красамоўнай назвай «Ужо нассаліся».** «Незалежны аналітык» вінаваціў апазіцыю ў раскрадванні мільёнаў даляраў, выдадзеных заходнімі дзяржавамі на падтрымку дэмакратыі ў Беларусі. У адказ на гэта Мікола Статкевіч, лідар Народнай Грамады, заявіў, што варта падаць на Фядуту ў суд за дыскрэдытацыю дэмакратычнага руху.

**«НН». №42. 2001**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»



АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by



**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая.



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7565. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 18.10.2011.
Замова № 5020.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12